М. П. Лобан
М. Р. Суднік

# Арфаграфічны слоўнік

6-е выданне, дапоўненае
і ўдакладненае

Мінск
«Народная асвета»
1990

ББК 81.2 Бел-4
Л 68

*Пад рэдакцыяй акадэміка АН БССР*
*К. К. Атраховіча (Кандрата Крапівы)*

Словарь содержит более 15 тысяч слов, которые могут вызвать трудности в написании.

В отдельных реестрах даны «трудные» в орфографическом отношении фамилии, личные имена и географические названия.

**Лобан М. П., Суднік М. Р.**
Л 68 Арфаграфічны слоўнік.— 6-е выд., дап. і ўдаклад.— Мн.: Нар. асвета, 1990.— 256 с.
ISBN 5-341-00373-Х.
Лобан Н. П., Судник М. Р. Орфографический словарь.

Слоўнік змяшчае больш за 15 тысяч слоў, якія могуць выклікаць цяжкасці пры напісанні.

У асобных рэестрах дадзены «цяжкія» ў арфаграфічных адносінах прозвішчы, асабовыя імёны і геаграфічныя назвы.

**Л $\frac{4602030000-043}{М\ 303(03)-90}$ 154—90** **ББК 81.2 Бел-4**

**ISBN 5-341-00373-Х** 

## ПРАДМОВА ДА ШОСТАГА ВЫДАННЯ

Арфаграфічны слоўнік з'яўляецца дапаможнікам па беларускай мове, які вызначае правільнае напісанне найбольш цяжкіх у арфаграфічных адносінах слоў і іх форм. Тэарэтычнай асновай гэтага выдання служылі правераныя 30-гадовай практыкай «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», якія былі распрацаваны ў поўнай адпаведнасці з «Удакладненнямі і частковымі зменамі беларускага правапісу», зацверджанымі Пастановаи Савета Міністраў БССР 11 мая 1957 года.

Дадзенае, шостае выданне Арфаграфічнага слоўніка рыхтавалася праз 7 гадоў пасля выхаду ў свет пятага. Перыяд хоць і невялікі, але па сваёй значнасці прыкметны. Менавіта ў гэтыя гады распачалася рэвалюцыйная перабудова грамадства, дэмакратызацыя ўсяго ўкладу жыцця ў краіне, дзякуючы чаму чалавек пастаўлен у цэнтр увагі, а яго асобе забяспечваюцца неабмежаваныя магчымасці духоўнага росквіту, гарантуецца свабода шырокага карыстання роднай моваи, якой цяпер нададзен статус дзяржаўнай мовы. Важную ролю ў гэтай сувязі набывае павышэнне ўзроўню валодання пісьмовай культурай.

Адным з магчымых шляхоў ажыццяўлення гэтых задач з'яўляецца стварэнне адпаведных дапаможнікаў па беларускай мове для ўсіх, хто ёю карыстаецца. З арыентацыяй на аказанне пасільнай дапамогі ў вырашэнні адзначаных задач і рыхтавалася дадзенае выданне Арфаграфічнага слоўніка.

У структурных адносінах яно мала чым адрозніваецца ад пятага. У ім чытач знойдзе: асноўныя правілы беларускага правапісу; лексічны раздзел, што ўключае словы, якія могуць выклікаць цяжкасці пры

напісанні; раздзел геаграфічных назваў свету, часткова дапоўнены і дэталізаваны, у прыватнасці вызначаны сталічныя гарады і паказаны дзяржавы, да якіх яны адносяцца (*Капенгаген — сталіца Каралеўства Данія; Нікасія — сталіца Рэспублікі Кіпр*); гэта дэталізацыя мае на мэце садзейнічаць актыўнаму засваенню не толькі правільнага напісання, але і афіцыйнага найменння дзяржаў свету і іх сталіц. Затым ідзе раздзел прозвішчаў, якія на пісьме часта перадаюцца неаднастайна, у сувязі з чым патрабуюць уніфікацыі; нарэшце, структуру шостага выдання завяршае раздзел «Асабовыя імёны», які знаёміць чытачоў з дакументальнай формай асабовых імён і правільным іх напісаннем. Для зручнасці карыстання ў Слоўніку асобна даюцца мужчынскія імёны і асобна жаночыя.

Усяго Слоўнік ахоплівае звыш 15 тысяч слоў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Частковае абнаўленне лексічнага саставу ў гэтым выданні зроблена за кошт тых слоў, якія атрымалі пашырэнне і набылі асаблівую актуальнасць у наш час у сувязі з перабудовай і новым палітычным мысленнем (*аграпром, галоснасць, дэмакратызацыя, інфарматыка, канфрантацыя, плюралізм, экалогія* і інш.).

Як даведнік арфаграфічнага прызначэння Слоўнік дае адно, прызнанае правільным, напісанне слова і не дапускае арфаграфічных варыянтаў. Што да варыянтаў словаўтваральных, вымаўленчых, стылістычных, то яны ў Слоўніку адлюстроўваюцца (напр.: *выгара́ць* і *вы-га́рваць, мігце́нне* і *мігаце́нне, разнако́лерны* і *ро̀зна-каляро́вы*). У асобных выпадках, калі правільнае напісанне блізкіх па вымаўленню слоў залежыць ад іх значэння, Слоўнік выкарыстоўвае гэты крытэрый, напр.: *абвінава́чаны* (прызнаны вінаватым) і *абвінава́чваны* (той, хто абвінавачваецца).

Паколькі ў беларускай арфаграфіі націск адыгрывае ролю своеасаблівага крытэрыю правільнага напісання, ён паслядоўна ставіцца над кожным рэестравым словам, за выключэннем аднаскладовых слоў і слоў з літарай *ё*, якая ў беларускай мове не пад націскам не ўжываецца. У складаных жа словах, апрача асноўнага, ставіцца і пабочны націск, які служыць паказчыкам нарматыўнага словаўжывання і вымаўлення, напр.: *до̀брасусе́дскі, са̀мааку́пнасць, тэ̀рмадына́міка.*

Адметную рысу шостага выдання Слоўніка складае сістэмна пададзеная сельскагаспадарчая лексіка, асабліва тая, што абазначае назвы палёў, з якіх сабраны ўраджай (*аўсянішча, бульбянішча, вічанішча, гарохавішча, жытнішча, ільнянішча, капуснішча, ячнішча* і інш.).

Шырока тут прыводзяцца і назвы розных відаў спорту, якімі цікавіцца сучасная моладзь. У такіх назвах паслядоўна вызначаюцца канчаткі роднага склону, паколькі менавіта ў гэтым склоне часта дапускаюцца адступленні ад граматыкі (*баскетбол — баскетбола, тэніс — тэніса, хакей — хакея*).

Рэгламентуецца ў гэтым выданні напісанне такой значнай групы слоў, якой з'яўляюцца назвы страў і пітва. Належачы да катэгорыі рэчыўных назоўнікаў, яны захоўваюць у родным склоне канчаткі ***-у, -ю*** (*амлет — амлету, шніцэль — шніцэлю; булён — булёну, халаднік — халадніку; квас — квасу, ліманад — ліманаду* і інш.). Разам з тым Слоўнік звяртае ўвагу на другую групу слоў, якая таксама мае дачыненне да рэчыўных назоўнікаў, аднак адрозніваецца ад першай групы канчаткамі ***-а, -я*** ў родным склоне. Да гэтай групы адносяцца розныя кандытарскія вырабы, што ўспрымаюцца як асобныя адзінкі, паштучна (*кекс — кекса, каравай — каравая, торт — торта* і інш.).

У сувязі з тым што за апошнія гады некаторыя замежныя дзяржавы ў працэсе развіцця зазналі змены не толькі ў грамадска-палітычным ладзе, але і ў сваіх назвах, спатрэбілася ў Слоўніку даць новыя назвы такіх дзяржаў. Цяпер чытач замест *Рэспублікі Астравы Зялёнага Мыса* знойдзе *Рэспубліку Каба Вэрдэ*; замест *Рэспублікі Бераг Слановай Косці — Рэспубліку Кот-д'Івуар;* замест *Верхняй Вольты — Буркіна Фасо;* замест *Гвінейскай Народнай Рэвалюцыйнай Рэспублікі — Гвінейскую Рэспубліку*, а замест *Паўднёвай Радэзіі — Рэспубліку Зімбабве.*

Пры падрыхтоўцы шостага выдання Арфаграфічнага слоўніка ўлічаны слушныя заўвагі чытачоў, а таксама замацаваныя практыкай перыядычнага друку напісанні асобных слоў і форм. Перш-наперш прыведзена ў адпаведнасць з афіцыйнымі найменнямі арфаграфія слоў *амудар'інскі, сырдар'інскі, тайваньскі, цяньцзіньскі, гаміньдан, гаміньданавец, ЮНЭСКА* і інш.

Падпарадкаваны адзіным прынцыпам падыходу напісанні канчаткаў роднага склону пэўных груп назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду: *дыялог — дыялога, памост — памоста, плот — плота; лівень — ліўню, турнір — турніру, чэмпіянат — чэмпіянату; жнеі — жней, клеці — клецей, лодкі — лодак, п'яўкі — п'явак, рэкі — рэк, школы — школ* і пад. Прымаючы пад увагу тое, што назоўнікі *марксізм, ленінізм, сацыялізм, камунізм* у пісьмовай практыцы пачалі шырока ўжывацца ў форме роднага склону з канчаткам *-у* (пры наяўнасці раней зацверджанага канчатка *-а*), Слоўнік не абыходзіць гэтай з'явы і адзначае яе шляхам падачы двух канчаткаў: *ленінізма(-му), марксізма(-му).*

Усе заўвагі і дапаўненні да гэтага выдання просьба дасылаць у Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР (220600, Мінск, ГСП, вул. Ф. Скарыны, 25).



*М. Р. Суднік*

## БЕЛАРУСКІ АЛФАВІТ

з паказаннем,
як правільна называць літары

| Літары | Назвы літар | Літары | Назвы літар |
|---|---|---|---|
| **Аа** | а | **Оо** | о |
| **Бб** | бэ | **Пп** | пэ |
| **Вв** | вэ | **Рр** | эр |
| **Гг** | гэ | **Сс** | эс |
| **Дд** | дэ | **Тт** | тэ |
| **(Дж дж)** | джэ | **Уу** | у |
| **(Дз дз)** | дзэ | **Ўў** | у кароткае |
| **Ее** | е | **Фф** | эф |
| **Ёё** | ё | **Хх** | ха |
| **Жж** | жэ | **Цц** | цэ |
| **Зз** | зэ | **Чч** | чэ |
| **Іі** | і | **Шш** | ша |
| **Йй** | і кароткае | **ы** | ы |
| **Кк** | ка | **ь** | мяккі знак |
| **Лл** | эл | **Ээ** | э |
| **Мм** | эм | **Юю** | ю |
| **Нн** | эн | **Яя** | я |

## ПРЫНЯТЫЯ Ў СЛОЎНІКУ СКАРАЧЭННІ

*ав.*— авіяцыйны тэрмін
*а-вы* — астравы
*адз.*— адзіночны лік
*адм.-тэрыт.*— адміністратыўна-тэрытарыяльны тэрмін
*анат.*— анатамічны тэрмін
*бат.*— батанічны тэрмін
*він.*— вінавальны склон
*выкл.*— выклічнік
*гандл.*— гандлёвы тэрмін
*герц.*— герцагства
*гіст.*— гістарычны тэрмін
*дав.*— давальны склон
*дап.*— дапаўненне
*ж.*— жаночы род
*жарт.*— жартоўнае слова
*заал.*— заалагічны тэрмін
*заг.*— загадны лад
*займ.*— займеннік
*зак.*— закончанае трыванне
*зборн.* — зборнае
*злучн.*— злучнік
*і пад.*— і падобнае
*іран.*— іранічны
*кар.*— каралеўства
*кн.*— княства
*кул.*— кулінарны тэрмін
*лінг.*— лінгвістычны тэрмін
*літ.*— літаратурны тэрмін
*ліч.*— лічэбнік
*м.*— мужчынскі род
*мат.*— матэматычны тэрмін
*месн.*— месны склон
*мін.*— мінералагічны тэрмін
*міф.*— міфалагічны тэрмін
*мн.*— множны лік
*н.*— ніякі род
*наз.*— назоўнік
*напр.*— напрыклад
*незак.*— незакончанае трыванне
*нескл.*— нескланяльны (назоўнік)
*нязм.*— нязменнае слова
*пабочн.*— пабочнае слова
*памянш.*— памяншальнае
*перан.*— пераноснае значэнне
*прык.*— прыказка
*прым.*— прыметнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*р. мн.*— родны склон множнага ліку
*родн.*— родны склон
*рэсп.*— рэспубліка
*с.-г.*— сельскагаспадарчы тэрмін
*спарт.*— спартыўны тэрмін
*спец.*— спецыяльны тэрмін
*ст.*— сталіца
*тв.*— творны склон
*3 адз.*— трэцяя асоба адз. ліку
*у размерк. знач.*— у размеркавальным значэнні
*фізіял.*— фізіялагічны тэрмін
*фін.*— фінансавы тэрмін
*хім.*—хімічны тэрмін
*шахм.*— шахматны тэрмін
*што-н.*— што-небудзь
*юр.*— юрыдычны тэрмін

# АСНОЎНЫЯ ПРАВІЛЫ ПРАВАПІСУ

## УЖЫВАННЕ ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ

§ 1. З вялікай літары пішацца першае слова тэксту, а таксама першае слова пасля кропкі, шматкроп'я, пытальніка і клічніка, якія стаяць у канцы сказа.

Заўвага 1. У вершах дапускаецца напісанне з вялікай літары першага слова кожнага радка незалежна ад папярэдніх знакаў прыпынку.

Заўвага 2. Пасля шматкроп'я, якое стаіць у сярэдзіне сказа і абазначае перапынак або замінку ў гутарцы, першае слова пішацца з малой літары: *А што вы скажаце на крытыка, Іван Ант... выбачайце, Мацвеевіч* (Бядуля).

Заўвага 3. З малой літары пішуцца і словы аўтара, што ідуць услед за простай мовай і паказваюць, каму яна належыць: *«Самалёт!» — у захапленні крычаў Міколка* (Самуйлёнак). *«Што ты хочаш рабіць?» — з жахам запытаў Мірон* (Маўр).

§ 2. З вялікай літары пішацца першае слова пасля выклічніка або зваротка, якім пачынаецца сказ і пасля якога стаіць клічнік: *А-я-яй! Хто ж бы гэта мог падумаць! Гэтакі, здаецца, чалавек!..* (Крапіва). *О Нёман! Песня майго сэрца, краса палёў, краса нізін, люблю твой спеў, што ўдаль нясецца, люблю цябе, як родны сын!* (Русак).

Заўвага. Калі ж выклічнік стаіць у сярэдзіне сказа, тады першае слова пасля клічніка пішацца з малой літары: *І ляцім жа, браткі, э-эх! ляцім!.. Даганяй — не дагоніш...* (Лынькоў).

§ 3. З вялікай літары пішацца першае слова пасля двукроп'я ў наступных выпадках:

1. Калі гэта пачатак простай мовы: *Маці пыталася часамі: «Дзе ты ўсё ходзіш, Міша?»* (Крапіва).

2. Калі гэта пачатак цытаты, якая з'яўляецца самастойным сказам: *Звяртаючы ўвагу маладых пісьменнікаў на неабходнасць глыбокага вывучэння мовы, Аляксей Максімавіч Горкі гаварыў: «Сапраўдная прыгажосць мовы, што дзейнічае як сіла, ствараецца дакладнасцю, яснасцю, гучнасцю слоў, якія афармляюць малюнкі, характары, ідэі кнігі».*

Заўвага. Калі ж цытата ўваходзіць у сказ як яго арганічная частка, тады яна пачынаецца з малой літары: *Уладзімір Ільіч Ленін пісаў пра Горкага, што ён «моцна звязаў сябе сваімі вялікімі мастацкімі творамі з рабочым рухам Расіі і ўсяго свету».*

§ 4. З вялікай літары пішуцца імёны, імёны па бацьку, прозвішчы, псеўданімы, празванні: *Іван Дамінікавіч*

*Луцэвіч (Янка Купала), Кастусь Каліноўскі, Бацька Мінай, Луі Арагон, Пётр Першы, Рычард Ільвінае Сэрца.*

Заўвага 1. Індывідуальныя назвы людзей, якія страцілі значэнне ўласных імён і набылі значэнне агульнай назвы, пішуцца з малой літары: *донжуан, мецэнат.*

З малой літары пішуцца і назвы фізічных адзінак, відаў вопраткі, зброі і інш., якія паходзяць ад індывідуальных назваў людзей: *ампер, фрэнч, браўнінг, напалеон* (пірожнае).

Індывідуальныя назвы людзей, якія ўжываюцца як агульныя назвы ў пагардлівым сэнсе, пішуцца з малой літары: *абломавы, хлестаковы, гарлахвацкія.*

Заўвага 2. Назвы народаў, плямён, а таксама назвы, якія паказваюць нацыянальную прыналежнасць людзей, іх месцапражыванне, пішуцца з малой літары: *беларус, кітаец, француз, араб; ленінградзец, палачанін, масквіч.*

Заўвага 3. Агульныя назвы, утвораныя ад уласных імён, пішуцца з малой літары: *ленінец, марксіст, пушкініст, талстовец.*

Заўвага 4. Назвы пасад, тытулаў, ганаровых званняў, навуковых ступеней пішуцца з малой літары: *старшыня, прэзідэнт, міністр, прафесар, маршал, герой, народны паэт, заслужаны дзеяч мастацтваў, кароль, шах.*

Але ў назвах вышэйшых пасад і ў назвах вышэйшых ганаровых званняў СССР з вялікай літары пішацца кожнае слова: *Прэзідэнт СССР, Старшыня Вярхоўнага Савета, Старшыня Савета Міністраў, Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы, Маршал Савецкага Саюза.*

§ 5. З вялікай літары пішуцца індывідуальныя назвы, якія адносяцца да міфалогіі і рэлігіі: *Антэй, Геркулес, Венера, Зеўс, Пярун, Малох.*

Заўвага. Індывідуальныя назвы міфалагічных істот, якія ператварыліся ў назвы агульныя, пішуцца з малой літары: *малох імперыялізму, пярун расшчапіў дрэва.* Таксама з малой літары пішуцца радавыя назвы міфалагічных істот: *дамавік, лясун, русалка, муза, німфа, фея.*

§ 6. З вялікай літары пішуцца клічкі жывёл: *Халстамер* (конь), *Рагуля* (карова), *Лыска* (сабака), *Мурка* (кошка).

Заўвага. Калі ж клічкі ўжываюцца ў якасці назваў відаў жывёлы, тады яны пішуцца з малой літары: *шарак* (заяц), *мішка* (мядзведзь).

§ 7. З вялікай літары пішуцца ў байках, казках, драматычных творах назвы дзеючых асоб, выражаныя імёнамі, якія звычайна з'яўляюцца агульнымі назвамі: *Асёл, Сава, Дуб, Шчупак, Леў, Мароз (Дзед Мароз).*

§ 8. З вялікай літары пішуцца прыметнікі, утвораныя з дапамогай суфіксаў ***-ев- (-ёв-, -ёў-), -ов- (-ав-, -аў-), -ін- (-ын-)*** ад уласных імён людзей і клічак жывёл: *Коласавы творы, Міхасёвы кнігі, Мурчыны кацяняты.*

Аднак калі падобныя прыметнікі ўтвараюць навуковыя тэрміны або ўжываюцца ў выразах з пераносным значэннем, то яны пішуцца з малой літары: *піфагорава тэарэма, берталетава соль, ахілесава пята.*

§ 9. З вялікай літары пішуцца прыметнікі, утвораныя з дапамогай суфіксаў ***-айск-, -еўск-*** або ***-інск-***, калі яны ўваходзяць у састаў назваў, роўных па сэнсу назвам са словамі «імя», «памяці»: *Ленінская прэмія* (прэмія імя Леніна), *Купалаўскія чытанні* (чытанні памяці Купалы).

Ва ўсіх астатніх выпадках падобныя прыметнікі пішуцца з малой літары: *купалаўскі стыль, эзопаўская мова, сувораўская тактыка, ленінская тэорыя* і г. д.

Заўвага. Прыслоўі, якія ўтвораны ад індывідуальных імён людзей, заўсёды пішуцца з малой літары: *па-ленінску, па-сувораўску.*

§ 10. З вялікай літары пішуцца:

1. Назвы планет, зорак, сузор'яў: *Венера, Марс, Казярог, Сатурн, Уран, Плутон, Сітца, Воз* і інш.

Заўвага. Словы *сонца, месяц, зямля* пішуцца з вялікай літары тады, калі яны ўжываюцца ў якасці астранамічных назваў: *Вакол Сонца абарачаюцца наступныя планеты: Меркурый, Венера, Зямля (са сваім спадарожнікам Месяцам), Марс, Юпітэр, Сатурн, Уран, Нептун і Плутон;* але: *апрацоўка зямлі, сонца слепіць вочы.*

2. Індывідуальныя геаграфічныя, адміністрацыйна-тэрытарыяльныя і іншыя назвы: *Беларусь, Каўказ, Азія, Грэнландыя, Сахара, Байкал, Мінск.*

Калі ж падобныя назвы складаюцца з некалькіх слоў, тады ўсе словы пішуцца з вялікай літары, апрача службовых слоў і радавых назваў (такіх, як: *зорка, камета, сузор'е; востраў, мора, рака, заліў, мыс; вуліца, плошча,* а таксама парадкавых абазначэнняў свяцціл — *альфа, бэта* і інш.): *Млечны Шлях, Новая Зямля, Ста-*

*рыя Дарогі, Злучаныя Штаты Амерыкі, возера Нарач, Балканскі паўвостраў, тропік Рака, Паўночны полюс, пік Леніна, вуліца Горкага, Спаская вежа, Красная плошча, Вялікі Крамлёўскі палац, альфа Малой Мядзведзіцы* і інш.

У афіцыйных назвах дзяржаў усе словы пішуцца з вялікай літары (у тым ліку і слова *рэспубліка*): *Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, Башкірская Аўтаномная Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, Польская Рэспубліка, Народная Рэспубліка Ангола.*

З вялікай літары пішуцца і неафіцыйныя геаграфічныя назвы: *Савецкі Саюз, Краіна Саветаў, Савецкая Беларусь, Кіргізія, Закаўказзе, Случчына.*

Заўвага. Назвы чатырох галоўных кірункаў свету (*поўдзень, поўнач, захад, усход, паўднёвы захад, паўночны ўсход* і г. д.) пішуцца з малой літары: *Самалёт узяў кірунак на поўнач.*

Але калі гэтыя назвы ўжываюцца ў значэнні краін, тады яны пішуцца з вялікай літары: *народы Усходу.*

§ 11. З вялікай літары пішуцца прыметнікі, утвораныя ад уласных геаграфічных назваў:

1. Калі яны ўваходзяць у састаў складаных геаграфічных назваў: *Мінская вобласць, Беларускі вакзал* (у Маскве), *Валдайскае ўзвышша.*

Заўвага. Калі ж прыметнікі, утвораныя ад уласных геаграфічных назваў, ужываюцца не як уласныя, а як агульныя назвы, тады яны пішуцца з малой літары: *асфальтуюцца мінскія вуліцы, разбудоўваюцца беларускія гарады.*

2. Калі яны ўваходзяць у састаў складаных індывідуальных назваў людзей у якасці іх прозвішчаў: *Сімяон Полацкі. Кірыл Тураўскі, Дзмітрый Данской.*

§ 12. У назвах гістарычных падзей, эпох, з'яў, гістарычных дакументаў, твораў мастацтва і іншых матэрыяльных помнікаў з вялікай літары пішацца першае слова, а таксама ўласныя імёны, якія ўваходзяць у іх састаў.

Сюды адносяцца:

1. Назвы, выражаныя адным назоўнікам: *Кастрычнік* (у значэнні' Вялікая Кастрычніцкая сацыялістыч-

ная рэвалюцыя'), *Адраджэнне, Рэнесанс, Рэфармацыя* і інш.

Заўвага. Гэтыя ж словы могуць ужывацца і ў якасці агульных назваў, тады іх трэба пісаць з малой літары: *стыль рэнесанс, адраджэнне гаспадаркі.*

2. Назвы, выражаныя спалучэннем прыметніка, утворанага ад уласнага імя, з назоўнікам: *Парыжская камуна, Версальскі мір, Баркалабаўскі летапіс, Літоўская метрыка.*

Заўвага. Калі ж у прыметніку, з якога пачынаецца такая назва, з'яўляецца прыстаўка, тады назва пішацца з малой літары: *дапятроўская эпоха, перадналалеонаўскія войны.*

3. Назвы, выражаныя ўсякім іншым спалучэннем назоўніка з пачатковым прыметнікам або лічэбнікам: *Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Вялікая Айчынная вайна, Доўгі парламент, Лютаўская рэвалюцыя, Сямігадовая вайна, Трэцяя рэспубліка* і інш.

Заўвага. Назвы гістарычных падзей, эпох, плыней, з'яў, якія не ўсведамляюцца як уласныя назвы, пішуцца з малой літары: *антычны свет, рэалізм, феадалізм, другая сусветная вайна* і інш.

§ 13. З вялікай літары пішацца першае слова ў назвах рэвалюцыйных свят і знамянальных дат: *Першае мая, Дзевятае студзеня, Новы год, Міжнародны жаночы дзень, Дзень артылерыі* .

Калі пачатковы парадкавы лічэбнік у такой складанай назве перадаецца лічбай, тады з вялікай літары пішацца наступнае за ім слова: *1 Мая, 9 Студзеня.*

Заўвага. Назвы дзён тыдня, месяцаў і інш. пішуцца з малой літары: *нядзеля, панядзелак, студзень, красавік.*

§ 14. З вялікай літары пішуцца ўсе словы ў поўных назвах ордэнаў, апрача слоў *ордэн* і *ступень: ордэн Леніна, ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэн Айчыннай вайны I ступені, ордэн Аляксандра Неўскага, ордэн Славы II ступені, ордэн Залатога Льва, ордэн Ганаровага Легіёна* і г. д.

Заўвага 1. У назвах знакаў узнагарод, знакаў адрознення і прызоў, якія бяруцца ў двукоссе, з вялікай літары пішацца першае слова, а таксама ўваходзячыя ў іх уласныя назвы: *ордэн «Мацярынская слава», «За абарону Масквы»* (медаль), *«За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.»* (медаль), *«Выдатны падводнік», «Выдатны артылерыст», «Кубак СССР»* і інш.; але: *«Знак Пашаны», медаль «Маршальская Зорка», медаль «Залатая Зорка», медаль «Серп і Молат».*

Заўвага 2. З вялікай літары пішацца першае слова і ў наступных назвах, якія не бяруцца ў двукоссе: *Ганаровая грамата, Чырвоны сцяг, Кніга гонару, Дошка гонару.*

§ 15. У назвах вышэйшых партыйных, урадавых, прафсаюзных устаноў і арганізацый Савецкага Саюза і саюзных рэспублік з вялікай літары пішуцца ўсе словы, якія ўваходзяць у састаў назвы, апрача службовых слоў і слова партыя: *Палітбюро Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза (Палітбюро ЦК КПСС), Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі (ЦК КПБ), Бюро ЦК КПБ, Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі (ВЛКСМ), Вярхоўны Савет СССР* (а таксама саюзных і аўтаномных рэспублік), *Прэзідэнцкі Савет СССР, Савет Саюза, Савет Нацыянальнасцей, Савет Міністраў СССР* (а таксама саюзных і аўтаномных рэспублік), *Вярхоўны Суд СССР, Усесаюзны Цэнтральны Савет Прафесійных Саюзаў (ВЦСПС), Савецкая Армія, Ваенна-Марскі Флот.*

Заўвага. З вялікай літары пішуцца ўсе словы, апрача службовых, у назвах некаторых міжнародных арганізацый: *Сусветны Савет Міру, Генеральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Савет Бяспекі, Таварыства Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца.*

§ 16. У назвах міністэрстваў і іншых цэнтральных савецкіх устаноў і арганізацый (апрача адзначаных у § 15) з вялікай літары пішацца першае слова. Калі ў іх састаў уваходзяць уласныя імёны або назвы іншых устаноў і арганізацый, то гэтыя ўласныя імёны і назвы пішуцца так, як яны пішуцца пры самастойным ужыванні: *Акадэмія навук БССР, Міністэрства замежных спраў, Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў СССР па навуцы і тэхніцы, Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне пры Савеце Міністраў СССР.*

§ 17. У поўных афіцыйных назвах савецкіх устаноў мясцовага значэння, вышэйшых навучальных устаноў, відовішчных прадпрыемстваў, прамысловых і гандлёвых арганізацый з вялікай літары пішуцца першае слова і ўсе ўласныя імёны, якія ўваходзяць у састаў такіх назваў: *Палац піянераў, Мінскі універсальны магазін, Выканаўчы камітэт Віцебскага абласнога Савета народных дэпутатаў, Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага, Беларуская дзяржаўная акадэмічная харавая капэла, Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.*

Заўвага. Правіла гэтага параграфа адносіцца і да складаных назваў міжнародных і замежных цэнтральных устаноў, грамадскіх і прафесійных саюзаў: *Прэзідыум сейма Польскай Рэспублікі.*

§ 18. З вялікай літары пішацца першае слова ў афіцыйных назвах палітычных партый, калі назва не пачынаецца са слова *партыя: Народна-рэвалюцыйная партыя Лаоса, Бразільская камуністычная партыя, Камуністычная партыя Аўстрыі, Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя, Саюз 17 кастрычніка;* але: *партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў.*

§ 19. У назвах літаратурных твораў, газет, часопісаў, устаноў, прадпрыемстваў, якія бяруцца ў двукоссе, з вялікай літары пішацца першае слова і ўваходзячыя ў іх састаў уласныя імёны: *«Мінская праўда», «Літаратура і мастацтва»* (газеты), *«Камуніст Беларусі», «Работніца і сялянка»* (часопісы), *«Раскіданае гняздо»* (драма), *«Новая зямля»* (паэма), *«Векапомныя дні»* (раман), *«Смелыя людзі»* (фільм). *«Янка Купала»* (параход), *«Навука і тэхніка»* (выдавецтва), *«Серп і молат»* (завод), *«Крылы Саветаў»* (спартыўнае таварыства) і інш.

Заўвага. У падвойных састаўных назвах з вялікай літары пішацца таксама і першае слова другой назвы: *«Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна».*

§ 20. У розных афіцыйных пасланнях, лістах з вялікай літары пішацца займеннік ***Вы*** як форма ветлівага звароту да адной асобы.

У асобым стылістычным ужыванні з вялікай літары пішуцца словы *Радзіма, Айчына, Чалавек, Мір, Свабода* і інш.

## ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ

§ 21. Пасля ***ж, ч, ш, р, ц*** (не з ***т*** мяккага) і ***д, т*** пішуцца літары ***а, э, о, у, ы,*** а літары ***я, е, ё, ю, і*** не пішуцца: *жар, табель, жэрдка, цэгла, човен, рука, шыба, дымець, тыдзень.*

Абмежавана ўжываюцца літары ***я, е, ё, ю*** і пасля зычных ***г, к, х.*** Гэта пераважна словы іншамоўнага паходжання: *генерал, кеглі, Хельсінкі, гяур, Кяхта.*

### Літары *о, э, а*

§ 22. Літара ***о***, як правіла, пішацца толькі пад націскам. Не пад націскам на месцы ***о*** пішацца ***а***: *бор — бары́, гóры — гара́, хóлад — халады́, арганіза́цыя, камунізм, бальшавік, Астáп, Ашмя́ны, Адэ́са, пóзна, хýтка, дына́ма, брýта, лібрэ́та, Маладзéчна.*

Не пад націскам ***о*** захоўваецца ў канцы слова пасля галоснай: *трыо, Антóніо, Більбáо, Ватэрлóо, Мантэвідэ́о;* але: *радыё.*

У аднаскладовых словах *бо, мо, то, што* заўсёды пішацца ***о.***

§ 23. У невялікай групе слоў спалучэнні ***ро, ло*** не пад націскам пераходзяць у ***ры, лы:*** *крой — крывí, дрóвы — дрывóтня, крóшка — крышы́ць, брóвы — брывó, гром — грымéць, брод — брысцí, скрóгат — скрыгатáць, глóтка — глытáць, блóхі — блыхá.*

§ 24. Літара ***э,*** як правіла, пішацца толькі пад націскам. Не пад націскам на месцы літары ***э*** пішацца ***а:*** *цэ́ны — цанá, жэ́рдка — жардзíна.*

Літара ***э*** не пераходзіць у ***а*** не пад націскам у словах іншамоўнага паходжання: *рэвалю́цыя, рэзідэ́нцыя, дэманстрáцыя,* а таксама ў першай частцы складаных слоў, напрыклад: *шэравóкі, рэдказýбы.*

§ 25. Літара ***э*** ці ***е*** ў пачатку іншамоўных слоў пішацца ў залежнасці ад агульнапрынятага літаратурнага вымаўлення: *эра, эўрыка, эпас, этыка, Эзоп, Эзель;* але: *егер, ерась, Еўропа.*

Пасля шыпячых, ***р, ц*** (не з ***т*** мяккага) і ***д, т*** пішацца

толькі *э*: *джэмпер, чэк, шэф, прагрэс, рэбус, цэгла, канцэрт, дэфіс, тэкст, тэхніка;* пасля астатніх зычных пішацца *е*: *бензін, метал, бетон, ветэран, гейзер, кекс, легенда.*

Аднак ёсць рад слоў, у якіх пасля падобных зычных пішацца *э*: *асэсар, бэз, бэлька, бэра, бэсціць, бэта* (назва літары), *вэрхал, галіфэ, зэдаль, кафэ, капэла, камізэлька, маянэз, мэр, нэндза, пэўна, пэндзаль, пэр, пенснэ, сэнс, сэр, сэрца, сурвэтка, турнэ, турнэпс, фэст, чвэртка.*

Пасля прыстаўнога *г* пішацца *э*: *гэты, гэтакі, гэтак, гэтулькі, адгэтуль, дагэтуль, гэй.*

## Літары *е, ё, я*

§ 26. На месцы літары *е* ў першым складзе перад націскам пішацца *я*: *лес — лясні́к, снег — сняжо́к, сцэ́ны — сцяна́, Нясві́ж, Пячо́ра, Яўці́хіевіч, Ярмо́ленка.*

Выключэнне: *дзевя́ты, дзеся́ты, семна́ццаць, васемна́ццаць* і вытворныя ад іх.

Ва ўсіх астатніх складах як перад, так і пасля націску пішацца *е*: *верабе́й, во́сень, по́езд.*

Заўвага. Ва ўласных імёнах, імёнах па бацьку і прозвішчах пачатковае *я* захоўваецца незалежна ад месца націску: *Яўту́х — Яўтуха́, Ярма́к — Ярмака́.*

У словах іншамоўнага паходжання *е* захоўваецца ва ўсіх складах: *дэлега́т, леге́нда, калекты́ў.* Выключэнне складаюць даўно запазычаныя словы: *га́ндаль, каляндар, літарату́ра, рамо́нт, сяржа́нт* і некаторыя іншыя, якія падпарадкоўваюцца агульным правілам акання.

§ 27. Літара *ё*, як правіла, бывае толькі пад націскам, калі ж націск пры змене слова пераходзіць на іншы склад, то ў першым складзе перад націскам на месцы *ё* пішацца *я*, а ў астатніх складах як перад націскам, так і пасля націску на месцы *ё* пішацца *е*: *сёлы — сяло́, вёдры — вядро́, сёстры — сястра́ — сестрыны́.*

## Літары *і, й, ы*

§ 28. Словы са збегам зычных, першай з якіх з'яўляецца плаўная *л* або *р*, пішуцца з прыстаўным *і* або без

яго: *іржа* і *ржа, іржышча* і *ржышча, ілгаць* і *лгаць, ільнавод* і *льнавод* і г. д. Каб не памыліцца пры напісанні, трэба помніць, што без прыстаўнога *і* гэтыя словы пішуцца толькі ў тым выпадку, калі папярэдняе слова канчаецца на галосную і яно не аддзелена знакам прыпынку. Ва ўсіх іншых выпадках, г. зн. пасля зычнай папярэдняга слова, пасля знака прыпынку або ў самым пачатку тэксту, у такіх словах пішацца прыстаўная літара *і*: *іржой пакрылася жалеза;* але: *жалеза пакрылася ржой; на нараду сабраліся аграномы, заатэхнікі, ільнаводы;* але: *нарада льнаводаў; араць іржышча;* але: *заворанае ржышча.*

Заўвага 1. Словы *лоб, лёд, лён* могуць мець прыстаўную літару *і* ва ўсіх склонах, акрамя назоўнага і вінавальнага (а слова *леў* і ў вінавальным склоне) адзіночнага ліку: *лён, ільну (льну), ільну (льну), лён, ільном (льном), аб ільне (льне); ільны (льны), ільноў (льноў), ільнам (льнам), ільны (льны), ільнамі (льнамі), аб ільнах (льнах).*

Заўвага 2. Словы са збегам зычных, першай з якіх з'яўляецца літара *м*, ва ўсіх выпадках пішуцца з прыстаўным *і*: *імгла, імчаць, імшара.*

Заўвага 3. Прыстаўное *і* не пішацца пасля галоснай у сярэдзіне слова: *заржавець, памкнуцца, вокамгненна.*

§ 29. На месцы *і* пішацца *ы*, калі прыстаўка канчаецца на зычную: *сыграць, сыскаць, абымшэлы, абыржавець, абысці, надышоў, узышоўшы, разысціся.*

Аднак галосная *і* захоўваецца пасля прыставак і часціц ***між-, звыш-, пан-, суб-, транс-, контр-:*** *міжірыгацыйны, звышімклівы, панісламізм, субінспектар, контрігра.*

§ 30. Пасля прыставак, што канчаюцца на галосную, пачатковае карэннае *і* скарачаецца: *зайсці, знайсці, прыйсці, выйсці, увайсці, перайсці; зайшоў, знайшоў, прыйшоў, выйшаў, увайшоў, перайшоў* і г. д.; але: *заікацца, заіскрыцца, заінтрыгаваць, заінець.*

## Літары *у* і *ў*

§ 31. Літара *у* пішацца:

1. У пачатку слова, калі гэтым словам пачынаецца сказ: *Узмахам арліным няма перашкоды* (Колас).

2. У пачатку слова, калі гэта слова стаіць пасля зычнай або знака прыпынку: *Ад ураджаю ломіцца*

*гумно* (Панчанка); *Сякера, як маланка, узвілася ў дзедавых руках* (Колас).

3. У сярэдзіне або на канцы слова пасля зычнай: *журавіны, бульбянік, зарунець, дашчэнту.*

4. У пачатку ўласных імён: *Уладзімір, Уладзівасток, Урэчча, Унеча.*

5. У пачатку іншамоўных слоў: *універсітэт, універмаг, уверцюра.*

6. У сярэдзіне іншамоўных слоў, калі ***у*** ўтварае самастойны склад: *прэзідыум, калёквіум, фауна.*

§ 32. Літара ***ў*** пішацца:

1. У пачатку слова, калі папярэдняе слова канчаецца на галосную і паміж гэтымі словамі няма знака прыпынку: *Рака ўвайшла ў берагі.*

2. У сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі або літарамі ***е, ё, я, ю, і,*** калі апошнія вымаўляюцца раздзельна з папярэдняй часткай слова: *наўздагон, заўважыць, саўю, саўеш, салаўя, салаўі.*

3. У канцы слова пасля галосных: *пісаў, чытаў, зноў.*

4. Пачатковае ***у*** не скарачаецца ў асабовых імёнах людзей і ўласных геаграфічных назвах: *Марыя Ульянава, Маякоўскі Уладзімір; рака Урал, на Украіне.*

### Іншамоўныя злучэнні галосных

§ 33. Злучэнне ***іо*** ў пачатку слова пад націскам перадаецца праз ***іо,*** а не пад націскам праз ***іа:*** *іóн, Іóсіф, іанізáцыя, Іанíчнае мóра, Іаáн.* Гэта ж злучэнне ў сярэдзіне слова пад націскам перадаецца праз ***іё (ыё),*** а не пад націскам праз ***ія (ыя):*** *аксіёма, біёлаг, патрыёт, рацыён, стадыён; бібліятэ́ка, піянéр, рацыяналізáцыя, патрыяты́зм,* у канцы слова — праз ***іо (ыо)***: *Тóкіо, Ры́одэ-Жанéйра, рáцыо;* але: *рáдыё.*

Калі злучэнне ***іо*** вымаўляецца як адзін склад, прычым раздзельна з папярэднім зычным, то яно перадаецца пад націскам і ў канцы слоў праз ***ьё***: *мільён, трыльён, шампіньён, Эскамільё;* пасля ***б, п, в, ф, м, г, к, х, д, т, р*** і шыпячых — праз ***'ё***: *Верóк'ё.* У сярэдзіне слоў не пад націскам гэта злучэнне павінна перадавацца праз ***'я.***

Злучэнне ***йо*** звычайна пад націскам і ў канцы слоў перадаецца праз ***ё,*** а не пад націскам праз ***я:*** *ёд, ёт, ёг, раён, Гюё, маянэ́з, раяніраванне, Áльварэс дэль Вáё, Агáё.* У пачатку ўласных імён і геаграфічных назваў

злучэнне **йо** пад націскам захоўваецца: *Йóжэф, Нью-Йóрк,* не пад націскам перадаецца праз **йа:** *Йагáнсен.*

§ 34. Злучэнне **іа** перадаецца праз **ія (ыя):** *авіяцыя, энтузіязм, піяніст, сацыялізм, дыяметр.*

Калі гэта злучэнне вымаўляецца як адзін склад, прычым раздзельна з папярэднім зычным, то яно перадаецца праз **ья:** *мільярд,* а пасля **б, п, в, ф, м, г, к, х, д, т, р** і шыпячых — праз **'я:** *Рэйк'явік.*

Злучэнне **йа** пасля галосных перадаецца праз **я:** *Савóя, Малáя, Мáя.*

§ 35. Злучэнне **іе** перадаецца праз **іе (ые):** *гігіéна, абітурыéнт, іерáрхія, Іерусалíм.*

Злучэнне **йе** пасля галосных перадаецца праз **е:** *праéкт, канвéер, траектóрыя, фаé, Феербáх*; пасля зычных — праз **ье, 'е:** *рэльéф, ранцьé, канферансьé, Лавуазьé, п'éса, аб'éкт, прэм'éра, Альф'éры, Ваян-Куцюр'é, Буш'é.*

§ 36. Злучэнне **йі** ва ўсіх выпадках захоўваецца без змены: *Байі, Рэмійі.*

## Галосныя ў некаторых суфіксах

§ 37. Трэба адрозніваць суфіксы ***-ак, -очак (-ачак)*** ад суфіксаў ***-ык, -чык.*** Галосная ***а*** ў суфіксах ***-ак, -очак (-ачак)*** пры скланенні назоўнікаў выпадае: *сшытак — сшытка, парадак — парадку, каласочак — каласочка, сшытачак — сшытачка,* галосная ж ***ы*** ў суфіксах ***-ык, -чык*** застаецца: *ножык — ножыка, дожджык — дожджыку, каменьчык — каменьчыка.*

§ 38. Суфікс ***-ічк-(-ычк-)*** трэба адрозніваць ад суфікса ***-ечк- (-ачк-).*** Суфікс ***-ічк- (-ычк-)*** пішацца ў назоўніках жаночага роду, якія ўтварыліся ад слоў з суфіксам ***-іц- (-ыц-):*** *сястрыца — сястрычка, мыльніца — мыльнічка.* У іншых выпадках пішацца суфікс ***-ечк- (-ачк-):*** *дзядзька — дзядзечка, Наташа — Наташачка.*

§ 39. Трэба помніць, што суфікс ***-ец (-ац)*** пішацца ў назоўніках мужчынскага роду *(камсамолец, ленінградзец),* а суфікс ***-іц- (-ыц-)*** пішацца ў назоўніках жаночага роду *(лесвіца, лáсіца, старыца).*

§ 40. У суфіксе ***-еньк-*** пасля зацвярдзелых зычных на месцы ***е*** пішацца ***а:*** *беленькі, цёпленькі; добранькі, харошанькі.*

§ 41. З дапамогай суфікса *-ян-* утвараюцца дзеепрыметнікі ад дзеясловаў на ***-яць:*** *сеяць — сеяны, веяць — веяны, страляць — страляны, згуляць — згуляны,* а з дапамогай суфікса ***-ен- (-ан-)*** — ад дзеясловаў на ***-іць, -ці:*** *зрабіць — зроблены, купіць — куплены, знасіць — зношаны, скасіць — скошаны, завесці — заведзены.*

§ 42. Дзеясловы, якія ў першай асобе адзіночнага ліку канчаюцца на ***-ую (-юю),*** у неазначальнай форме і форме прошлага часу маюць суфікс ***-ава- (-ява-):*** *галасую — галасаваць, галасаваў; камандую — камандаваць, камандаваў; пакутую — пакутаваць, пакутаваў; даследую — даследаваць, даследаваў; малюю — маляваць, маляваў.*

Калі ж дзеясловы ў першай асобе адзіночнага ліку канчаюцца на ***-ваю,*** то ў неазначальнай форме і ў форме прошлага часу яны маюць суфікс ***-ва-:*** *адказваю — адказваць, адказваў; выконваю — выконваць, выконваў.*

У дзеясловах са збегам зычных перад суфіксам замест *-ва-* пішацца суфікс ***-іва- (-ыва-):*** *падтрымліваю — падтрымліваць, падтрымліваў; падкрэсліваю — падкрэсліваць, падкрэсліваў.*

§ 43. Калі дзеяслоў у закончаным трыванні канчаецца на ***-іць*** з папярэдняй галоснай, то ў незакончаным трыванні ***і*** пераходзіць у ***й:*** *засвоіць — засвойваць, загаіць — загойваць.*

## ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ

§ 44. У прыстаўках *з-, уз-, раз- (роз-), без- (бяз-), цераз-* перад глухімі зычнымі замест *з* пішацца ***с:*** *ссыпаць, ссадзіць, схапіць, усхваляваць, раскідаць, роспіс, бесперастанку, бясспрэчна, цераспалосіца.*

Прыстаўка *з-* перадаецца праз *с-* і перад галоснымі ***а, о, у:*** *сагнаць, садзьмуць, сослепу, сосмеху, суняць, сурочыць,* а таксама перад ненаціскным ***і,*** якое пераходзіць пасля прыстаўкі ў ***ы:*** *сыгра́ць, сыска́ць, сыхо́дзіцца.*

Заўвага. У словах, утвораных ад дзеяслова *ісці,* прыстаўка *з-* або *с-* пішацца ў залежнасці ад значэння слова: *сышоў, сыходзіць* (з ганка); але: *зыходзіць* (з меркаванняў).

§ 45. Зычныя ***д, т,*** стаўшы перад галоснымі ***е, ё, і, ю, я*** і перад мяккім ***в,*** пераходзяць у мяккія ***дз*** і ***ц:*** *люд — людзі, лета — леце, мяту — мяцеш, выток — выцякаць, два — дзве, двухсот — дзвесце.*

Прыставачнае ***д*** і суфіксальнае ***т*** перад мяккім ***в*** захоўваюцца: *адвесці, адведаць, у таварыстве, у грамадстве, на брытве.*

§ 46. У словах іншамоўнага паходжання ***д, т*** захоўваюцца нязменна. Пры гэтым галосныя ***е, і, ю*** пасля ***д, т*** перадаюцца адпаведна галоснымі ***э, ы, у:*** *дэлегат, дырэктыва, матэрыял, тыраж, авантура.*

Аднак перад суфіксамі і злучэннямі суфіксальнага паходжання ***-ін-, -ір-, -ёр-, -еец-, -ейск-,*** а таксама перад памяншальным суфіксам ***-ік- д, т*** перадаюцца праз ***дз, ц:*** *карціна, плаціна, лацінскі, камандзір, камандзіроўка, білецёр, гвардзеец, індзейскі, білецік;* але: *латынь.*

З а ў в а г а. Неабходна запомніць, як пішуцца словы *дзюна, дзюшэс, арцель, бардзюр, эцюд, цюль, цітр, нацюрморт, уверцюра, накцюрн, цюркскі, цюльпан.*

§ 47. У іменах уласных пішуцца ***д, т*** ці ***дз, ц*** у залежнасці ад таго, што чуецца ў вымаўленні: *Дзяніс, Дзюкло, Дзмітэрка, Гарыбальдзі, Дзясна, Дзвіна, Барадзіно, Уладзівасток, Градзянка, Плоўдзіў, Ціхан, Хрысціна, Цёркін, Ціханаў, Ціміразеў, Ціта, Вучэціч, Целяханы, Ціхвін, Быцень, Закарпацце, Церак, Цюмень, Цянь-Шань, Цяньцзінь, Цюрынгія, Поці, Таіці, Гаіці, Тэкля, Тэвасян, Тэкерэй, Тэльман, Атэла, Шаптыцкі, «Юманітэ», Дадэ, Дэфо, дэ Бальзак, Дэтройт, Літвінаў, Мардвінаў.*

§ 48. Падоўжанае вымаўленне зычных ***ж, з, л, н, с, ц, ч, ш*** паміж галоснымі перадаецца на пісьме падваеннем адпаведных літар: *збожжа, маззю, галлё, карэнне, двукоссе, смецце, ламачча, заціша.* Падоўжанае вымаўленне ***дз*** на пісьме перадаецца праз ***ддз:*** *суддзя, разводдзе.*

§ 49. Падваенне зычных у словах іншамоўнага паходжання ў беларускай мове не перадаецца: *каса, група, калектыў, граматыка, карэспандэнт.* Выключэнне складаюць словы: *ванна, манна, бонна, панна, Мекка, мецца, дурра* (расліна), *донна.*

§ 50. У агульных для рускай і беларускай моў словах

са злучэннямі ***здн, рдц, стн, стл, лнц*** паводле норм беларускага літаратурнага вымаўлення зычныя ***д, т, л*** у гэтых злучэннях выпадаюць і на пісьме не адлюстроўваюцца: *позна, сэрца, міласэрны, косны* (мозг), ***слаць*** (пасцель), *сонца.*

Заўвага. У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса ***-н-*** ад назоўнікаў іншамоўнага паходжання з канцавым ***ст,*** злучэнне ***стн*** захоўваецца без змены: *баласт — баластны, фарпост — фарпостны, аванпост — аванпостны, кампост — кампостны, кантраст — кантрастны.*

§ 51. Злучэнне ***дт*** на канцы слоў іншамоўнага паходжання перадаецца праз ***т:*** *фарштат, Гумбальт, Краншгат.*

§ 52. Калі прыстаўка канчаецца той жа зычнай, якой пачынаецца корань слова, то гэта падваенне на пісьме захоўваецца: *аддаць, раззбраенне, рассыпаць, бяссонніца.*

Выключэнне: *расада, расол, расольнік.*

§ 53. Злучэнне ***сч*** на стыку прыстаўкі і кораня, як правіла, захоўваецца без змены: *расчыніць* (дзверы), *расчапіць* (кручкі), *усчаць* (гаворку). Трэба адрозніваць ***сч*** у гэтых словах ад ***сшч*** у словах *расшчапіць* (на дзве часткі), *расшчапленне* (ядра).

Выключэнне: *рошчына, шчасце, ушчуваць, нішчымны* і вытворныя ад іх.

§ 54. Калі корань слова канчаецца зычнай ***н,*** а суфікс пачынаецца з ***н,*** то на пісьме падваенне захоўваецца: *восень — асенні, корань — карэнны, перамена — пераменны, рэмень — раменны, дзень — дзённік.*

§ 55. У прыметніках, утвораных ад назоўнікаў на ***-мя,*** і вытворных ад гэтых прыметнікаў словах пішацца ***нн:*** *племя — племянны — пляменнік, імя — імянны — займеннік, стрэмя — страмянны, цемя — цемянны;* але: *полымя — палымяны.*

§ 56. Злучэнні ***кс, тс, цс, чс,*** якія ўтвараюцца на стыку кораня і суфікса або двух суфіксаў, перадаюцца праз ***ц:*** *савет+скі — савецкі, мастак+скі — мастацкі, славак+скі — славацкі, кравец+скі — кравецкі, ткач+ +скі — ткацкі.*

Заўвага. У геаграфічных назвах іншамоўнага (неславянскага) паходжання і вытворных ад іх словах злучэнне ***кс*** захоўваецца: *узбекскі, таджыкскі.*

§ 57. Злучэнні ***сс, жс, шс*** на стыку кораня і суфікса перадаюцца праз адно ***с:*** *беларус + скі — беларускі, таварыш + скі — таварыскі, множ + ства — мноства, пташ + ства — птаства.*

§ 58. У геаграфічных назвах і вытворных ад іх словах зычныя кораня ***з, ш, ж, г, х*** з суфіксальным ***с*** не зліваюцца ў адно ***с,*** а захоўваюцца: *каўказскі, нясвіжскі, латышскі, выбаргскі, казахскі.* Зычныя ***г, х*** пры гэтым часам могуць чаргавацца з ***ж, ш:*** *старадарожскі* (Старыя Дарогі), *чэшскі* (чэх).

§ 59. Злучэнне ***дс*** на стыку кораня і суфікса на пісьме перадаецца нязменна: *грамадства, параходства, ленінградскі, гарадскі.*

§ 60. У назоўніках, утвораных ад назоўнікаў на ***-ск, -цк*** або ад прыметнікаў на ***-скі, -цкі*** пры дапамозе суфікса ***-ын,*** пішацца падвойнае ***ч:*** *Віцебск — Віцебшчына, Слуцк — Случчына, лагойскі — Лагойшчына, турэцкі — Турэччына.* Калі ж прыметнік на ***-цкі*** утвараецца ад назоўніка з канцавым зычным ***т,*** то ў назоўніках, утвораных ад такіх прыметнікаў, перад суфіксам ***-ын*** пішацца ***тч:*** *Брэст — брэсцкі — Брэстчына, стары свет — старасвецкі — старасветчына.*

§ 61. У зваротнай форме інфінітываў і дзеясловаў трэцяй асобы адзіночнага і множнага ліку пішацца падвойнае ***ц:*** *вучыцца, вучыцца, вучацца.* Падвойнае ***ц*** пішацца таксама ў лічэбніках *адзінаццаць, дванаццаць, трынаццаць, чатырнаццаць, пятнаццаць, шаснаццаць, семнаццаць, васемнаццаць, дзевятнаццаць, дваццаць, трыццаць,* акрамя гэтага, на канцы асноў у формах творнага склону гэтых лічэбнікаў: *адзінаццаццю, дванаццаццю* і г. д.

§ 62. Пры дапамозе суфіксаў ***-чык, -чыц(а)*** і ***-шчык, -шчыц(а)*** утвараюцца назоўнікі, што абазначаюць асобу чалавека па роду дзейнасці. Суфіксы ***-чык, -чыц(а)*** пішуцца, калі корань слова канчаецца на ***д, т, з, с, ж, ч:*** *дакладчык, лётчык, возчык, перапісчык, перабежчык.* Суфіксы ***-шчык, -шчыц(а)*** пішуцца, калі корань слова канчаецца на губныя ***б, п, ф, в (ў)*** або санорныя ***м, н, р, л*** і ***й:*** *бетоншчык, зборшчык, забойшчык, мадэльшчык, перакупшчык.*

§ 63. Пристаўное ***в*** пішацца:

1. Перад пачатковым карэнным ***у:*** *вугал, вугаль, вуда, вудзільна, вуліца, вус, вусаты, вусны, вучань, ву-*

*чыцца, вуха, вушанка;* перад карэнным *у* пасля прыстаўкі: *абвугліванне, вывудзіць, завулак, завуголле, навучанне, навушнікі, папрывучаць, невуцтва.*

Заўвага. Неабходна запомніць напісанне слоў *павук, павуцінне,* а таксама некаторых уласных імён: *Навум, Тадэвуш, Матэвуш.*

2. Перад пачатковым націскным *о:* *во́зера, во́ка, во́пыт, во́крык, во́ддаль, во́бласць, во́льха, во́сень, во́спа, во́страў, во́браз, во́бземлю;* перад націскным *о* пасля прыстаўкі: *заво́чна, уво́сень, уво́гуле* (але: *нао́гул, о́каць*), у словах *вако́л, вако́ліца, навако́лле.*

Калі ж націск сыходзіць з *о* і на яго месцы становіцца *а,* то прыстаўное *в* не пішацца: *во́кны — акно́, во́льха — альхо́вы, во́сень — асе́нні, во́страў — астравы́.* У словах *во́ка, во́стры* захоўваецца прыстаўное *в* ва ўсіх формах незалежна ад націску: *во́ка — вачэ́й, во́стры — вастры́ць — навастры́ць.*

3. У сярэдзіне некаторых імён перад націскным *о:* *Лаво́н, Радзіво́н, Селіво́н.*

§ 64. Прыстаўное *в* не пішацца:

1. Перад пачатковым *у* ў словах іншамоўнага паходжання і ўласных імёнах: *універсітэт, універсальны, унікальны, урна; Ульяна, Ульянаў, Ула, Умань, Урал, Украіна.*

2. Перад *у* прыставачным або перад *у,* якое развілося з *в:* *увага, угнаенне, удвух, удзел, умова, урад, ураджай, участак, узгорак, узмор'е, улада, унук, уюн.*

3. Перад пачатковым націскным *о* ў словах іншамоўнага паходжання і ўласных імёнах (акрамя тых выпадкаў, калі беларускае слова — агульная назва выступае як імя ўласнае): *о́да, о́муль, о́нікс, о́пера, о́піум, о́птыка, о́пус, о́рган, о́рдэн о́рдэр, О́сла, Омск, О́рша;* але: *Во́зера* (назва вёскі), *Во́гненная Зямля.*

## ПРАВАПІС МЯККАГА ЗНАКА І АПОСТРАФА

### Змякчальны мяккі знак

§ 65. Мяккі знак пішацца:

1. На канцы слова пасля мяккага зычнага: *дзень, соль, мазь, вось, глядзець, вудзіць, дзесяць, трыццаць.*

2. У сярэдзіне слова пасля мяккага зычнага перад цвёрдым: *бацька, дзядзька, пісьмо, Кузьма, вязьмо.*

3. У сярэдзіне слова пасля мяккага зычнага перад мяккім, які пры змене слова можа станавіцца цвёрдым: *барацьбе — барацьба, цьмяны — цьма, пісьменнік — пісьмо.*

§ 66. Мяккі знак пішацца пасля мяккага зычнага ў дзеясловах загаднага ладу:

1. На канцы ў другой асобе адзіночнага ліку: *стань, глянь, сядзь.*

2. Перад канчаткам ***-ма*** ў першай асобе множнага ліку: *станьма, гляньма, сядзьма.*

3. Перад канчаткам ***-це*** ў другой асобе множнага ліку: *станьце, гляньце, сядзьце.*

4. Перад зваротнай часціцай ***-ся*** ў другой асобе адзіночнага ліку: *кінься, агледзься.*

§ 67. Мяккі знак пішацца ў складаных лічэбніках *пяцьдзесят, шэсцьдзесят, пяцьсот, шэсцьсот, дзевяцьсот* і ў часціцы ***-сьці,*** якая ўваходзіць у састаў слоў: *хтосьці, штосьці, дзесьці, якісьці,* а таксама у слове *ледзьве.*

§ 68. Мяккі знак таксама пішацца:

1. Пасля мяккага ***л*** перад зычным: *кольцы, пальцы, колькі, столькі, вельмі, сельскі, лепельскі.*

2. Пасля мяккага ***н*** перад суфіксам ***-к-:*** *песенька, вішанька.*

3. Пасля мяккага ***н*** перад суфіксам ***-чык,*** калі слова без суфікса ***-чык*** канчаецца мяккім знакам: *камень — каменьчык, прамень — праменьчык, агонь — агеньчык.*

4. Пасля мяккага ***н*** перад суфіксам ***-ск-*** у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў: *студзеньскі, снежаньскі, чэрвеньскі.*

5. У суфіксах ***-еньк-, -аньк-, -эньк-:*** *маленькі, старэнькі, прыгожанькі.*

§ 69. Мяккі знак не пішацца:

1. Пасля ***ж, дж, ч, ш, р, ц*** (не з ***т*** мяккага), ***д, т,*** а таксама пасля ***б, п, м, в, ф.***

2. Пасля ***з, с, ц, дз*** перад мяккімі зычнымі, калі пры змене слова або пры замене яго другім словам таго ж кораня гэтыя мяккія зычныя не могуць стаць цвёрдымі: *звер, свет, дзверы;* але: *носьбіт.*

3. Паміж падоўжанымі зычнымі: *калоссе, ралля, насенне, Палессе, маззю.*

4. Перад суфіксам ***-ск-*** у прыметніках, утвораных ад назоўнікаў на ***-нь:*** *конь — конскі, Казань — казанскі, Любань — любанскі.*

## Раздзяляльныя апостраф і мяккі знак

§ 70. Апостраф пішацца:

1. Паміж прыстаўкай, якая канчаецца на зычную, і коранем, які пачынаецца з галоснай ***е, ё, ю, я*** або націскнога ***і***: *ад'езд, пад'ём, раз'юшаны, аб'ява, аб'інець, між'ярусны,* а таксама пасля прыстаўкі ***з-*** у словах: *з'араць, з'імправізаваць, з'імшыць* і вытворных ад іх.

2. Губныя ***б, п, в, ф, м,*** глухія ***г, к, х,*** шыпячыя ***ж, дж, ч, ш,*** цвёрдыя ***д, т*** і ***р*** аддзяляюцца ад наступнай галоснай ***е, ё, ю, я*** і націскнога ***і*** апострафам: *сям'я, куп'ё, саф'ян, куп'істы, Лук'янаў, надвор'е, Буш'е, В'етнам.*

Мяккі знак пішацца:

3. Пасля зычных ***з, дз, л, н, с, ц*** (з мяккага ***т***) перад ***е, ё, ю, я, і*** ў словах іншамоўнага паходжання: *марсельеза, мільён, мільярд, мадзьяр, парцьеры, каньён, канферансье, Лавуазье, Цьер.*

4. Ва ўласных імёнах, утвораных ад імён на ***-ій,*** пасля зычных ***л, с, ц, дз, н, з*** перад суфіксальным ***-еў- (-ев-)***: *Васільеў, Васільевіч, Васільеўка, Арсеньеў, Арсеньевіч, Афанасьеў, Афанасьевіч, Кандрацьеў, Кандрацьевіч, Аркадзьеў, Аркадзьевіч.*

Заўвага. Пасля ***г, к, х*** і збегу зычных, акрамя ***нц,*** перад суфіксальным ***-еў- (-ев-)*** пішацца ***і (ы)***: *Георгіеў, Георгіевіч, Акакіевіч, Яўціхіеў, Іраклiевіч, Яўлампіевіч, Ануфрыеў, Ануфрыевіч, Дзмітрыеў, Дзмітрыевіч;* але: *Вікенцьеў, Вікенцьевіч, Кліменцьеў, Кліменцьевіч.*

## ПРАВАПІС КАНЧАТКАЎ

§ 71. Назоўнікі першага скланення з цвёрдай асновай у давальным і месным склонах адзіночнага ліку маюць канчатак ***-е***: *сцяна — сцяне, хата — хаце, вада — вадзе, губа — губе;* у тым ліку імёны жанчын: *Ганна — Ганне, Агата — Агаце,* а таксама прозвішчы, якія ўтварыліся ад агульных назоўнікаў жаночага роду: *Крапівá — Крапівé, Скарына — Скарыне.*

Назоўнікі гэтага ж скланення, што абазначаюць імёны мужчын, у давальным і месным склонах пад націскам маюць канчатак ***-е,*** а не пад націскам — ***-у***: *Кузьмá — Кузьмé, Фамá — Фамé, Мікóла — Мікóлу, Мікíта — Мікíту.*

Канчатак *-е* маюць назоўнікі з асновай на *г, х: нага —назе, страха — страсе.*

Назоўнікі ж з асновай на *к* маюць пад націскам канчатак *-э: рука́ — руцэ́, талака́ — талацэ́,* а не пад націскам — канчатак *-ы: лы́жка — лы́жцы, піяне́рка — піяне́рцы.*

Заўвага. Назоўнікі мужчынскага роду з асновай на *к* у давальным і месным склонах маюць канчатак *-у: ба́цька — ба́цьку, саба́ка — саба́ку.*

Назоўнікі з асновай на *г, х,* што абазначаюць імёны і прозвішчы, у давальным і месным склонах адзіночнага ліку маюць канчаткі ў жаночым родзе *-е,* у мужчынскім родзе *-у: Саладуха — Саладусе, Саладуху, Кніга — Кнізе, Кнігу.*

Такія ж назоўнікі з асновай на *к* у жаночым родзе маюць канчатак *-ы,* у мужчынскім родзе *-у: Мурашка — Мурашцы, Мурашку, Трапашка — Трапашцы, Трапашку.*

Прозвішчы, якія ўтварыліся ад агульных назоўнікаў ніякага роду або ад назоўнікаў, род якіх выразна не выступае, скланяюцца толькі ў тым выпадку, калі носьбітамі іх з'яўляюцца асобы мужчынскага полу. У давальным і месным склонах такія назоўнікі маюць канчатак *-у: Купала — Купалу, Пічэта — Пічэту, Глебка — Глебку, Сапега — Сапегу, Чабоха — Чабоху.*

§ 72. Назоўнікі першага скланення з асновай на шыпячыя і *р* у давальным і месным склонах адзіночнага ліку маюць канчатак *-ы: сажа — сажы, круча — кручы, нара — нары,* а назоўнікі з мяккай асновай маюць канчатак *-і: зямля — зямлі, свіння — свінні.* Такія ж канчаткі маюць і прозвішчы, утвораныя ад агульных назоўнікаў першага скланення жаночага роду: *Гушча — Гушчы, Зязюля — Зязюлі.*

Прозвішчы на *-еня (-эня, -аня), -уня (-юня)* у давальным і месным склонах маюць канчатак *-і: Гальчэня — Гальчэні, Шабуня — Шабуні, Варвашэня — Варвашэні.*

§ 73. Назоўнікі жаночага роду з асновай на збег зычных, апошняя з якіх суфіксальнае *-к,* у родным склоне множнага ліку маюць чыстую аснову: *авечка — авечак, іголка — іголак, ножка — ножак, вешалка — вешалак.* Пры збегу іншых зычных у аснове назоўнікі

гэтага роду маюць канчаткі *-аў, -яў: вярба — вербаў, коўдра — коўдраў, кафедра — кафедраў, торба — торбаў;* але: *форм, норм, ферм, фірм.*

Назоўнікі жаночага роду, якія ў назоўным склоне адзіночнага ліку маюць аснову на ***й,*** у родным склоне множнага ліку канчаюцца на ***-ій (-ый), -ей (-эй):*** *акадэмія — акадэмій, біяграфія — біяграфій, дэлегацыя — дэлегацый, рэвалюцыя — рэвалюцый, падзея — падзей, траншэя — траншэй.*

§ 74. Назоўнікі другога скланення мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак або ***-а (-я)*** або ***-у (-ю).***

З канчаткам ***-а (-я)*** пішуцца:

1. Назоўнікі, што абазначаюць жывыя прадметы або што намі ўяўляюцца як жывыя прадметы: *студэнта, арла, Івана, Апалона, д'ябла, канібала.*

2. Назоўнікі, што абазначаюць нежывыя, але непадзельныя прадметы, г. зн. такія, частка якіх не можа называцца імем цэлага прадмета: *дома, камбайна, пяра, кажуха, клёна* (у значэнні адзінкавай расліны), *каменя* (у значэнні адзінкавага прадмета), *пальца.*

3. Назоўнікі, што абазначаюць назвы ўстаноў, грамадскіх і гаспадарчых арганізацый, прадпрыемстваў, населеных пунктаў, вайсковых падраздзяленняў і часцей: *камсамола, атрада, калгаса, завода, Мінска, горада, палка, батальёна.*

4. Назоўнікі, што абазначаюць адзінкі розных вымярэнняў: *метра, грама, пуда, літра, гектара, рубля, франка, долара, года, века* (толькі ў значэнні 'сто гадоў'), *месяца, верасня, тыдня, дня, ампера, вольта, кулона.*

5. Назоўнікі, што абазначаюць назвы танцаў, гульняў, геаметрычных цел і фігур, і ўсе іншыя назоўнікі, што абазначаюць непадзельныя паняцці навуковага, спартыўнага і іншага характару: *вальса, балета, футбола, куба, квадрата, круга, косінуса, азімута, батута, гола.*

§ 75. З канчаткам ***-у (-ю)*** пішуцца:

1. Назоўнікі, што абазначаюць зборныя прадметы, матэрыял, рэчывы і наогул прадметы, часткі якіх можна назваць імем цэлага прадмета: *лесу, дубу* (у значэнні зборнага прадмета або ў значэнні матэрыялу), *пяску,*

*гіпсу, цэменту, азону, алюмінію, ангідрыду, туману, лёду, крупніку, гуляшу, ячменю.*

Выключэнне: *аўса, хлеба.*

2. Назоўнікі, што абазначаюць прасторавыя паняцці: *лугу, выгану, папару, лесастэпу.*

Заўвага. Назоўнікі з памяншальным значэннем, утвораныя ад зборных [redacted] і прасторавых, пішуцца з канчаткам *-а: садка, ляска, лужка, беражка; садочка, лясочка, лужочка, беражочка.*

3. Назоўнікі, што абазначаюць разумовыя паняцці, грамадскія фармацыі, навуковыя тэорыі, грамадскія і навуковыя плыні, розныя адчуванні, дзеянні, працэсы, стан, уласцівасці: *розуму, аб'ёму, поспеху, настрою, патрыятызму, матэрыялізму, капіталізму, імперыялізму, смаку, плачу, болю, жалю, бегу, смутку, смеху, страху, крыку, сну, спакою.*

4. Назоўнікі, што абазначаюць з'явы прыроды: *ветру, віхру, грому, марозу, змроку.*

§ 76. Назоўнікі другога скланення мужчынскага роду з цвёрдай асновай, што абазначаюць асобу чалавека, уласныя імёны і прозвішчы людзей, у месным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак *-е: партызан — аб партызане, брат — аб браце, Якуб — аб Якубе, Чэхаў — аб Чэхаве.*

§ 77. Назоўнікі другога скланення мужчынскага роду з мяккай асновай і асновай на ***й***, што абазначаюць асобу чалавека, уласныя імёны і прозвішчы, у месным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак *-ю: каваль — аб кавалю, Міхась — аб Міхасю, Васіль — аб Васілю, Гогаль — аб Гогалю, Мікалай — аб Мікалаю.*

Канчатак *-у* маюць падобныя назоўнікі з асновай на ***г, к, х,*** шыпячыя і ***р, ц****: настаўнік — аб настаўніку, дзеяч — аб дзеячу, качагар — аб качагару, Алег — аб Алегу, Мележ — аб Мележу, Гайдар — аб Гайдару, Кобец — аб Кобецу.*

§ 78. Назоўнікі трэцяга скланення ў творным склоне адзіночнага ліку пры зацвярдзелай аснове маюць канчатак ***-у***, пры мяккай аснове — ***-ю***. Пры гэтым апошні зычны асновы, калі ён стаіць пасля галоснага, падаўжаецца: *мышшу, ноччу, веліччу, граззю, арцеллю.*

Назоўнікі з асновай на ***р***, губныя ***б, п, в, ф, м*** і ***ў*** у творным склоне маюць таксама канчатак ***-ю***, але зыч-

ныя асновы не падвойваюцца: *глыб'ю, Об'ю, Свір'ю, кроўю.*

§ 79. У родным склоне множнага ліку назоўнікі трэцяга скланення маюць канчаткі ***-ей, -эй:*** *арцелей, пячэй, народнасцей.*

§ 80. У назоўнікаў тыпу *селянін, мінчанін* пры ўтварэнні множнага ліку ***-ін*** выпадае: *сяляне, мінчане, армяне, славяне, грамадзяне.*

§ 81. Прозвішчы на ***-аў (-оў), -еў (-ёў), -ін, -ын*** у творным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак ***-ым:*** *Куляшоў — Куляшовым, Лявонцьеў — Лявонцьевым, Селязнёў — Селязнёвым, Шамякін — Шамякіным.*

Заўвага. У іншамоўных прозвішчах на ***-ін, -ын, -аў, -оў*** у творным склоне адзіночнага ліку пішацца канчатак ***-ам:*** *Дарвін — Дарвінам, Чаплін — Чаплінам, Бюлаў — Бюлавам.*

Геаграфічныя назвы з гэтымі суфіксамі ў творным склоне маюць канчатак ***-ам, -ом:*** *пад Барысавам, за горадам Жлобінам, пад Ціхвінам, Барадзіном.*

§ 82. Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду з мяккай асновай у давальным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак ***-яму:*** *летняму, асенняму.* Гэтыя ж прыметнікі ў творным склоне адзіночнага ліку жаночага роду маюць канчатак ***-яй (-яю):*** *летняй (летняю), асенняй (асенняю).*

§ 83. Лічэбнікі *дзве, абедзве* ва ўскосных склонах захоўваюць мяккую аснову: *дзвюх, абедзвюх; дзвюм, абедзвюм; дзвюма, абедзвюма; аб дзвюх, аб абедзвюх.*

§ 84. У колькасных састаўных лічэбніках скланенню падлягае кожнае слова: *дваццаць восем, дваццаці васьмі, дваццаці васьмі, дваццаць восем, дваццаццю васьмю, аб дваццаці васьмі; шэсцьсот пяцьдзесят сем, шасцісот пяцідзесяці сямі, шасцістам пяцідзесяці сямі, шэсцьсот пяцьдзесят сем, шасцюстамі пяццюдзесяццю сямю, аб шасцістах пяцідзесяці сямі.*

§ 85. Парадкавыя лічэбнікі жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку пішуцца з канчаткамі ***-ай (-ае), -яй (-яе)*** не пад націскам і ***-ой (-ое)*** пад націскам: *во́сьмай (во́сьмае), друго́й (друго́е).*

§ 86. Займеннік *нечы* мае наступныя склонавыя формы:

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | Мужчынскі род | Ніякі род | Жаночы род | |
| Н. | *нечы* | *нечае* | *нечая* | *нечыя* |
| Р. | *нечага* | | *нечай (-ае)* | *нечых* |
| Д. | *нечаму* | | *нечай* | *нечым* |
| В. | *як Н. або Р.* | | *нечую* | *як Н. або Р.* |
| Т. | *нечым* | | *нечай (-аю)* | *нечымі* |
| М. | *(аб) нечым* | | *(аб) нечай* | *(аб) нечых* |

§ 87. Дзеясловы абвеснага ладу цяперашняга часу першага спражэння ў першай асобе множнага ліку пішуцца з канчаткамі ***-ем (-ам)*** не пад націскам і ***-ём (-ом)*** пад націскам: *будўем, вывучáем, пішам; нясём, сцеражóм.*

У другой асобе множнага ліку, калі націск падае на апошні склад, пішуцца канчаткі ***-яцé (-ацé)***, а не пад націскам ***-еце (-аце):*** *ідзяцé, несяцé, берацé; чытáеце, пішаце.*

§ 88. Дзеясловы абвеснага ладу цяперашняга часу другога спражэння ў другой асобе множнага ліку пішуцца з канчаткамі ***-іце (-ыце)*** не пад націскам і ***-іцé (-ыцé)*** пад націскам: *хóдзіце, гавóрыце; седзіцé, бежыцé.*

### Канчаткі назоўнікаў у канструкцыях з прыназоўнікам *па*

§ 89. Назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў спалучэннях з прыназоўнікам ***па***, як правіла, маюць канчатак ***-е*** або ***-і*** (у залежнасці ад асновы): *лазіць па дубе, блукаць па горадзе, хадзіць па пакоі, ісці па следзе, загад па універсітэце, звесткі па раёне, па Савецкім Саюзе, гаварыць па тэлефоне, выступаць па тэлебачанні, страляць па акопе, таварыш па атрадзе, плакаць па сыне.*

Канчатак ***-у (-ю)*** пішацца:

а) калі спалучэнне мае размеркавальнае ці вылучальнае значэнне: *па кілаграму на чалавека, па вядру малака, перабраць па каліву, насіць па гарбузу, падабраць голас па тэмбру, па хімічнаму саставу, стаць па росту, перайзыходзіць па таленту, агент па збыту, калега па пяру, спаборніцтва па тэнісу, недакладны*

*па сэнсу, вышэйшы па званню, розны па значэнню;*

б) калі спалучэнне мае значэнне адрэзка часу, на працягу якога адбываецца дзеянне: *па тыдню ў ад'ездзе, па месяцу ў камандзіроўцы, па году не бачыцца;*

в) калі спалучэнне мае значэнне параўнання чагонебудзь па велічыні: *качаны па вядру, казлякі па рэшату, цыбуры па сажню;*

г) калі прыназоўнік ***па*** ў спалучэнні з назоўнікам адпавядае значэнню слоў **паводле, адпаведна**: *па загаду дырэктара, па сігналу трывогі, працаваць па плану.*

## АБ НАПІСАННІ РАЗАМ І ПРАЗ ЗЛУЧОК

### Агульныя правілы

§ 90. Пішуцца разам:

1. Словы з прыстаўкамі: *абход, выезд, заказ, нацiск, прырост, выпрабаваны, прамежны, прадуглядзець, разгарнуць, задоўга, увогуле;*

у тым ліку і з прыстаўкамі ***звыш-, пасля-, анты-, архі-, інфра-, ультра-*** і інш.: *звыштэрміновы, паслярэвалюцыйны, антыбіётык, архінебяспечны, інфрачырвоны, ультрафіялетавы.*

2. Складанаскарочаныя словы: *калгас, партком, гарсавет, аўтарамонтны.*

§ 91. Пішуцца праз злучок:

1. Спалучэнні двух аднолькавых слоў: *ледзь-ледзь, ціха-ціха, чырвоны-чырвоны, чыталі-чыталі.*

2. Спалучэнні двух слоў з аднолькавай асновай, але з рознымі канчаткамі, суфіксамі ці прыстаўкамі: *адзін-адным, раз-пораз, як-ніяк, дзе-нідзе, калі-нікалі, сам-насам, крыж-накрыж;* але: *адзін на адзін, з вока на вока.*

3. Спалучэнні двух блізкіх па значэнню слоў: *жыўбыў, жыць-пажываць, бокам-скокам, сям-там, сядытады, шыта-крыта, паіць-карміць, далей-болей.*

4. Літарныя скарачэнні складаных слоў і слоў, якія пішуцца праз злучок, напрыклад: *с.-г.* — сельскагаспадарчы, *ст.-б.— старажытнабеларускі, с.-д.— сацыялдэмакрат.*

5. Складаныя словы, першай часткай якіх з'яўляюцца лічбы: *50-годдзе, 100-кіламетровы, 2-літровы.*

Заўвага. Злучок знакам прыпынку не з'яўляецца.

## Назоўнікі

§ 92. Пішуцца разам складаныя назоўнікі: *торфабрыкет, вадасховішча, землеробства, аэрафлот, авіябаза, веласпорт, кіначасопіс, аграбіялогія, гросмайстар, мікраклімат; Ленінград, Слаўгарад, Навапалацк.*

§ 93. Пішуцца праз злучок:

1. Складаныя назоўнікі, утвораныя з двух самастойных назоўнікаў, якія не звязаны злучальнай галоснай і ўсведамляюцца як адно слова: *жар-птушка, канёк-гарбунок, генерал-маёр, прэм'ер-міністр.*

2. Складаныя адзінкі вымярэння: *кілават-гадзіна, чалавека-дзень;* але: *працадзень.*

3. Іншамоўныя назвы прамежкавых кірункаў свету: *норд-ост, норд-вест, зюйд-ост, зюйд-вест.*

4. Састаўныя прозвішчы і імёны: *Бялыніцкі-Біруля, Мамін-Сібірак, Дунін-Марцінкевіч, Жаліо-Кюры.*

5. Складаныя назвы некаторых населеных пунктаў з першай часткай ***нова-, стара-, усць-, верх-***: *Нова-Барысаў, Стара-Барысаў, Стара-Віленская* (вуліца), *Усць-Каменагорск, Верх-Ірмень.*

6. Састаўныя геаграфічныя назвы, утвораныя з назваў частак геаграфічнага аб'екта, напрыклад: *Эльзас-Латарынгія;* але: *Чэхаславакія.*

7. Частка ***паў-*** з уласнымі назвамі: *паў-Мінска, паў-Беларусі.*

Заўвага. З іншымі назоўнікамі ***паў-*** пішацца разам: *паўметра, паўгода, паўрубля.*

8. Назоўнікі з аднаслоўным прыдаткам: *хлапчук-гарэза, дзяўчына-красуня.*

Заўвага 1. Пры адваротным становішчы назоўніка і аднаслоўнага прыдатка злучок не пішацца, напрыклад: *красуня дзяўчына.*

Заўвага 2. Злучок не пішацца таксама ў злучэнні агульнага назоўніка з уласнай назвай: *рака Свіслач;* але *Свіслач-рака.*

Заўвага 3. Злучок не пішацца і ў злучэннях назоўнікаў, з якіх першы азначае радавое паняцце, а другі відавое: *расліна чабор, кветка настурцыя.*

9. Графічныя скарачэнні назоўнікаў, якія складаюцца з пачатку і канца слова: *б-ка* (бібліятэка), *т-ва* (таварыства), *а-вы* (астравы), *д-р* (доктар).

## Прыметнікі

§ 94. Пішуцца разам:

1. Складаныя прыметнікі, утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія пішуцца ў адно слова: *водаправодны* (водаправод), *новасібірскі* (Новасібірск).

2. Складаныя прыметнікі, утвораныя са злучэння слоў, падпарадкаваных адно другому: *народнагаспадарчы* (народная гаспадарка), *агульнанародны* (агульны для народа), *чарнаморскі* (Чорнае мора), *правабярэжны* (правы бераг).

3. Складаныя прыметнікі, якія ўтвораны з прыслоўя і прыметніка і абазначаюць адзінае паняцце: *глыбокапаважаны, вечназялёны, доўгатрывалы.*

Заўвага. Складаныя прыметнікі, у састаў якіх уваходзяць прыслоўі, не трэба блытаць са словазлучэннямі, якія складаюцца з прыслоўяў і прыметнікаў, напрыклад: *дыяметральна процілеглы.*

§ 95. Пішуцца праз злучок:

1. Складаныя прыметнікі, утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія маюць злучок: *дызель-маторны* (дызель-матор), *сацыял-дэмакратычны* (сацыял-дэмакрат), *буда-кашалёўскі* (Буда-Кашалёва), *іль-дэ-французскі* (Іль-дэ-Франс); але: *маскварэцкі.*

2. Прыметнікі, утвораныя ад імён і прозвішчаў: *леў-талстоўскі, рамэн-раланаўскі.*

Заўвага. Прыметнікі, утвораныя ад уласных імён са злучком, пры наяўнасці прыстаўкі пішуцца без злучка, у адно слова: *заісыккульскі.*

3. Прыметнікі, утвораныя з дзвюх ці больш асноў, якія абазначаюць раўнапраўныя паняцці: *партыйна-камсамольскі, рабоча-сялянскі, руска-ўкраінскі, сіне-бела-чырвоны* (флаг).

4. Прыметнікі, утвораныя з дзвюх асноў, якія абазначаюць:

а) якасць з дадатковым адценнем, напрыклад: *горка-салёны;*

б) адценні колераў: *чырвона-малінавы, блакітна-сіні, шэра-карычневы, малочна-белы.*

5. Прыметнікі, якія ўваходзяць у састаў уласных геаграфічных назваў і пачынаюцца з ***усходне-, заходне-, паўднёва-, паўночна-***: *Паўночна-Казахстанская вобласць, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка.*

Заўвага. Усе астатнія прыметнікі, якія ўтвораны з дзвюх ці больш асноў і не падыходзяць ні пад адно з прыведзеных правіл, пішуцца праз злучок: *палітыка-масавы, літаратурна-мастацкі, народна-дэмакратычны.*

## Лічэбнікі

§ 96. Пішуцца разам:

1. Колькасныя лічэбнікі, апошнім элементам якіх з'яўляецца ***-дзесят, -сце, -ста, -сот:*** *пяцьдзесят, дзвесце, трыста, восемсот.*

2. Парадкавыя лічэбнікі, апошнім элементам якіх з'яўляецца ***-дзесяты, -соты, -тысячны, -мільённы, -мільярдны*** і г. д.: *пяцідзесяты, трохсоты, дзевяцітысячны, васьмідзесяцімільённы.*

§ 97. Пішуцца праз злучок:

1. Складаныя парадкавыя лічэбнікі на ***-тысячны, -мільённы, -мільярдны*** і г. д., калі першая іх частка напісана лічбамі: *600-мільённы, $8^1/_4$-тысячны.*

2. Напісаныя лічбамі парадкавыя лічэбнікі з граматычнымі канчаткамі або часткамі іх: *1-ы, 2-і, 5-ая, 8-ая, 20-га, 30-ая, 40-му.*

Заўвага. Поўнасцю граматычны канчатак пішацца, калі ён складаецца з адной або дзвюх літар: *6-ы, 8-ая, 10-ай, 40-ых, 50-ым.* Калі ж граматычны канчатак трохлітарны, то пры лічэбніку даюцца дзве апошнія: *9-га, 12-му, 40-му.*

3. Лічэбнікі, якія абазначаюць прыблізнасць, незалежна ад таго, напісаны яны лічбамі ці літарамі: *2-3 аркушы, праз 3-4 дні, хлопчык васьмі-дзевяці год, прайшоў год-другі* (у сэнсе 'першы-другі').

Заўвага. Пры абазначэнні прыблізнасці паміж саставўнымі колькаснымі лічэбнікамі, якія напісаны словамі, замест злучка ўжываецца працяжнік: *праз трыццаць пяць — трыццаць сем год.* Параўн.: *20-25 год.*

## Прыслоўі

§ 98. Пішуцца разам:

1. Прыслоўі, утвораныя шляхам злучэння прыназоўнікаў з прыслоўямі: *напотым, назаўтра, назаўсёды, назаўжды, назусім, намнога, насупраць, удвайне, заўчора, паслязаўтра, замнога.*

Ад такіх прыслоўяў трэба адрозніваць спалучэнні

прыназоўнікаў з нязменнымі словамі, якія ўжываюцца ў падобных выпадках у значэнні назоўнікаў і з прыназоўнікамі пішуцца асобна: *падняць на ўра, адкласці на паслязаўтра, рабіць за дзякуй, да заўтра, бралася на відно, ад цямна.*

2. Прыслоўі, утвораныя шляхам злучэння прыназоўнікаў з рознымі склонавымі формамі кароткіх прыметнікаў: *дабяла, дачыста, здалёк, зрэдку, спярша, справа, злева, зноў, сослепу, змалку, улева, управа, насуха, зацемна.*

3. Прыслоўі, утвораныя шляхам злучэння прыназоўнікаў ***у*** і ***на*** з рознымі склонавымі формамі зборных і колькасных лічэбнікаў: *удвух, удзвюх, удваіх, удвая, утрох, утраіх, надвае, натрае.*

4. Прыслоўі, утвораныя шляхам злучэння прыназоўнікаў з рознымі склонавымі формамі поўных прыметнікаў і займеннікаў: *урассыпную, упустую, збольшага, нашто, навошта, нізашто, потым, надта, зусім, затым.*

5. Прыслоўі, утвораныя шляхам злучэння прыназоўнікаў з рознымі склонавымі формамі назоўнікаў, пішуцца разам у тым выпадку, калі:

а) назоўнік, з якога ўтварылася прыслоўе, самастойна не ўжываецца: *бесперастанку, дашчэнту, досыць, знячэўку, зняпацку, наапашкі, напавал, напрост, наўцёк, неўдагад, неўспадзеў, паасобку, паблізу, удаўжкі, упярэмешку;*

б) паміж назоўнікам і прыназоўнікам, ад якіх утварылася прыслоўе, нельга без змены сэнсу дадаць азначэнне або да назоўніка нельга паставіць склонавае пытанне: *даволі, дадому, замужам, зроду, наадварот, наадрэз, накрыж, напаказ, напракат, напралом, углыб, усур'ёз;*

в) прыслоўі маюць у сваім саставе назоўнікі ***верх, ніз, перад, зад, бок, гара, век, пачатак, раз, ноч, вечар, ранак:*** *зверху, наверх, уверх, уверсе; уніз, знізу, унізе; наперад, наперадзе, уперад; ззаду, назад, узад, узадзе; збоку, набок, убок; дагары, угиры, угару; навек, навекі; зранку, увечар, нанач* і г. д. Аднак пры наяўнасці паясняльных слоў да адпаведных назоўнікаў адзначаныя словы пішуцца асобна: *на верх гары, на ніз шахты, з боку сяла, з самага ранку, у зімовы вечар* і г. д.

6. Разам пішуцца і прыслоўі *таксама, гэтаксама, штодзень, штотыдня, штогод, штоночы.*

§ 99. Пішуцца праз злучок словы *па-першае, па-другое, па-трэцяе* і г. д., а таксама ўтвораныя ад прыметнікаў і займеннікаў прыслоўі, якія пачынаюцца з ***па-*** і канчаюцца на ***-ку, -і (-ы), -аму (-яму), -ому (-ему, -йму):*** *па-гаспадарску, па-ленінску, па-руску, па-бацькоўску, па-латыні, па-чалавечы, па-добраму, па-ранейшаму, па-даўняму, па-веснавому, па-старому, па-свойму* і пад.

§ 100. У прыслоўях з прыстаўкай ***па-***, утвораных ад складаных прыметнікаў, якія пішуцца праз злучок, злучок ставіцца толькі пасля ***па-***: *па-сацыялдэмакратычнаму.*

## Прыназоўнікі, злучнікі, часціцы, выклічнікі

§ 101. Пішуцца разам:

1. Прыназоўнікі, якія ўтварыліся шляхам зліцця прыназоўнікаў з назоўнікамі: *замест, наконт, накшталт, звыш.*

2. Прыназоўнікі, якія ўжываюцца і ў якасці прыслоўяў, утвораных шляхам зліцця прыназоўнікаў з назоўнікамі: *зверху, наперадзе, наперакор, уперад, услед* і пад.

3. Злучнікі, якія ўтварыліся шляхам зліцця прыназоўнікаў з займеннікамі ці словамі ***колькі, столькі***: *затое, прычым, прытым, паколькі, пастолькі,* у адрозненне ад спалучэнняў прыназоўнікаў з адпаведнымі займеннікамі ці неазначальна-колькаснымі словамі, напрыклад: *паволі, затое, грунтоўна;* але: *Яму вынеслі падзяку за тое, што ён добра працаваў.*

4. Займеннікі і прыслоўі:

а) з суфіксамі ***-сь, -ся, -сьці***: *дзесь, хтось, чымся, кудысьці, якісьці;*

б) з прыстаўкай ***а-***: *аніхто, анідзе, аніяк.*

§ 102. Пішуцца праз злучок:

1. Складаныя прыназоўнікі: ***з-за, з-пад, з-над, па-над, з-па-над, па-за.***

2. Складаныя выклічнікі, падзыўныя і гукаперайманьныя словы: *о-го-го, ой-ой-ой, о-ё-ёй, а-я-яй, дзю-дзю-дзю, ха-ха-ха, дзын-дзын-дзын, ку-ку, трах-тарарах* і пад.

3. Словы з прыстаўкай ***абы-*** і суфіксамі ***-небудзь, -колечы:*** *абы-хто, абы-што, абы-як, абы-дзе, абы-адкуль, хто-небудзь, дзе-небудзь, куды-небудзь, як-колечы.*

Заўвага 1. Займеннікі ***абы-хто*** і ***абы-што*** пры спалучэнні з прыназоўнікамі пішуцца асобна (у тры словы): *абы ў каго, абы да каго, абы з чым.* Займеннік ***абы-які*** пры спалучэнні з прыназоўнікамі пішацца ў тры словы *(абы з якімі)* або ў два *(з абы-якімі).* Словы, вытворныя ад прыслоўя ***абы-як,*** з прыстаўкай ***абы-*** пішуцца разам: *абыякавы, абыякава, неабыякава, абыякавасць, абыякаваты, абыякавата* і пад.

Заўвага 2. Часціца ***-такі*** пішацца праз злучок у складзе слоў ***даволі-такі, зноў-такі, так-такі, урэшце-такі*** і ***ўсё-такі,*** а таксама ў тых выпадках, калі яна стаіць пасля дзеяслова: *Прыйшоў-такі сёння.* Ва ўсіх астатніх выпадках часціца ***-такі*** пішацца асобна: *Ен такі думае прыйсці. Ен усё ж такі думае прыйсці.*

§ 103. Пішуцца асобна:

1. Часціцы ***бы (б), жа (ж)***: *прачытаў бы, узяла б, напісаў жа, угледзела ж.*

2. Усе іншыя часціцы, а таксама часціца ***што*** ў такіх спалучэннях, як *пакуль што, амаль што, толькі што, сама што, хіба што* і пад.

## Правапіс *не* і *ні*

§ 104. Часціца ***не*** пішацца разам:

1. Калі слова без ***не*** не ўжываецца: *непагадзь, нядоімка, нястача, нядзеля, непакоіць, ненавідзець, непахісны, няўлоўны, неўзабаве, няўхільна, нябось.*

2. З назоўнікамі, прыметнікамі і прыслоўямі, калі часціца ***не*** надае слову новае, процілеглае значэнне: *няшчасце* (бяда), *няпраўда* (хлусня), *непрыяцель* (вораг), *невысокі* (нізкі), *недалёкі* (блізкі), *нялёгка* (цяжка), *нямнога* (мала).

3. З дзеепрыметнікамі, пры якіх адсутнічаюць паясняльныя словы або супрацьпастаўленне: *неапаўшае лісце* (але: *не апаўшае да зімы лісце; не апаўшае, а абабітае лісце*), *незасеянае поле* (але: *не засеянае вясною поле; не засеянае, а заворанае поле*).

4. З прыметнікамі і дзеепрыметнікамі пры наяўнасці паясняльных слоў, што абазначаюць ступень якасці,— ***вельмі, зусім, амаль, часткова, выключна, у вышэйшай ступені:*** *ён вельмі няветлівы, зусім няздатны, часткова непрыгодны.*

5. З займеннікамі і прыслоўямі, калі на ***не*** падае націск: *нехта, нешта, неяк, неадкуль, некуды, некалі, недзе, некага, некаму, нечага, нечаму, некім, нечым, нехаця, нельга.*

6. З часціцамі, напрыклад: *няўжо, няхай.*

7. У дзеяслоўнай прыстаўцы ***неда-***, якая абазначае неадпаведнасць патрэбнай норме: *недалічваць, недамерваць, недаацэньваць.* Гэту прыстаўку трэба адрозніваць ад дзеяслоўнай прыстаўкі ***да-*** з папярэднім адмоўем, якая абазначае не даведзенае да канца дзеянне: *не дапісаць пісьма, не дачытаць кнігі, не далічыць да ста.*

§ 105. Часціца ***не*** пішацца асобна:

1. Ад дзеясловаў і дзеепрыслоўяў: *не хадзіў, не рабіў, не пытаў, не гледзячы, не зрабіўшы.*

2. Ад кароткіх дзеепрыметнікаў: *сенажаць не ўбрана, ворыва не скончана.*

3. Ад поўных дзеепрыметнікаў, пры якіх ёсць паясняльныя словы: *не даворанае восенню поле, не прачытаная да канца кніга.*

4. Ад назоўнікаў, прыметнікаў, дзеепрыметнікаў і прыслоўяў, калі ёсць або падразумяваецца супрацьпастаўленне: *не прыяцель, а вораг; не праўда, а хлусня; перад намі была не высокая гара, а толькі ўзгорак; работа не скончаная, а толькі пачатая; на дварэ не цёпла, а холадна.*

5. Калі ***не*** ўваходзіць у састаў узмацняльных адмоўяў: *далёка не, зусім не, нікольki не, нічуць не* і пад.: *сёлета ўраджай нічуць не горшы, чым летась; адказ быў далёка не бліскучы.*

6. Ад узмацняльных прыслоўяў, а таксама ад прыназоўнікаў і злучнікаў: *не вельмі, не зусім, не ад ..., не ў ... .*

7. Калі паміж займеннікам і адмоўем стаіць прыназоўнік: *не з чага, не за шта.*

8. Ад нязменных слоў, якія не ўтвораны ад прыметнікаў і выступаюць у сказе ў якасці выказніка: *не трэба, не варта, не супраць, не шкада;* але: *нельга, няможна.*

9. Ад усіх слоў, што пішуцца праз злучок: *зроблена не па-мойму, не па-таварыску.*

§ 106. Часціца ***ні*** пішацца разам:

1. З займеннікамі, калі яна не аддзелена ад займен-

ніка прыназоўнікам: *ніхто, нішто, нікога, нічога, ніякі, нічый;* але: *ні з кім, ні ў кога, ні на што, ні да кога.*

2. З прыслоўямі: *ніколі, нідзе, нікуды, ніадкуль, ніяк, нізашто, нікольki, нічуць, нізвання,* а таксама ў вытворных словах: *нічыйны, ніякава, ніякавата* і інш.

3. У словах *нібы, нібыта.*

§ 107. Ва ўсіх астатніх выпадках часціца ***ні*** пішацца асобна.

## СКЛАДАНЫЯ СЛОВЫ

§ 108. Правапіс складаных слоў грунтуецца на вымаўленні слоў з адным або з двума націскамі.

З адным, асноўным націскам, як правіла, вымаўляюцца словы, у якіх гэты націск падае на першы склад другой часткі. Такія словы пры напісанні разглядаюцца як простыя: *скарахóд, баяздóльны, геагрáфія.*

З а ў в а г а. Прыметнікі *арфаграфічны, геаграфічны, манаграфічны, тапаграфічны* і пад. пішуцца так, як назоўнікі, ад якіх гэтыя прыметнікі ўтварыліся *(арфагрáфія, геагрáфія, манагрáфія, тапагрáфія).*

§ 109. Пабочны націск праяўляецца ў тых словах, у якіх асноўны націск падае не на першы склад другой часткі. У такіх словах пад пабочным націскам аднаўляецца этымалагічнае ***о (ё):*** *аснòвапалажэ́нне, вагòнарамóнтны, высòкаідэ́йны, гòрнарабóчы, жывёлагадóўля.*

З а ў в а г а 1. У некаторых словах пабочны націск можа выразна праяўляцца і тады, калі асноўны націск падае на першы склад другой часткі. У гэтых выпадках пад пабочным націскам захоўваецца ***о (ё):*** *малòчнакіслы, збòжжаздáча, вòкамгне́нне, вòднальы́жны, гòрнарýдны* і некаторыя іншыя.

З а ў в а г а 2. Словы ***фота, мота, процi, што*** ў складаных словах захоўваюць ***о:*** *фòтакáртка, фòтакóпія, фòтаздымак, фòтасýвязь; мòтапóезд, мòталóдка, мòтакрóс, мòтагóнкі;* але: *матавóз, матацы́кл* і вытворныя ад іх; *штòдзённа, штòмéсячна, штòгóд, прòцілéглы, прòцірáкавы.*

З а ў в а г а 3. Захоўваецца ***о (ё)*** у першай частцы і тых складаных слоў, другая частка якіх пачынаецца з ***ў:*** *марòзаўстóйлівы, тòрфаўбóрачны, збòжжаўбóрка.*

З а ў в а г а 4. У складаных словах, першай часткай якіх з'яўляецца слова ***кіно***, пабочны націск праяўляецца на першым складзе: *кінакарціна, кінаапарáт, кінаэкрáн, кінафестывáль.*

З а ў в а г а 5. Слова ***радыё*** ў складаных словах не змяняе свайго напісання: *рàдыёхвáля, рàдыёпрыёмнік, рàдыёкрóпка.*

Заўвага 6. Слова ***святло*** ў складаных словах не змяняе свайго напісання, калі націск у другой частцы падае не на першы склад: *святлòаддáча, святлòадчувáнне, святлòлюбівы, святлòўстóйлівы, святлòэкрáн, святлòвыпраменьванне, святлòвыпрамянéнне, святлòкапіравáнне, святлòлячэнне, святлòмаскірóўка, святлòнепранікáльны, святлòрассéянне, святлòсігналізáцыя.*

Калі ж націск падае на першы склад другой часткі, тады першая частка пішацца ў форме ***святла***: *святлабóязь, святлалюб, святламéр, святлафóр, святланóсны, святлатэхнік, святлацéнь, святлафільтр.*

§ 110. Ненаціскное ***э*** ў першай частцы складаных слоў захоўваецца: *мэтазгóдна, рэдказýбы, шэравóкі, тэлебáчанне, шэсцьсóт;* але: *шасцісóт, шасцістáм* і г. д.

Заўвага. Слова *шаснаццаць*, як і ўсе іншыя падобнага ўтварэння словы (*адзінаццаць, дванаццаць, трынаццаць* і г. д.), пры напісанні разглядаецца як простае слова.

§ 111. У складаных словах, утвораных ад лічэбніка ў форме роднага склону і якога-небудзь іншага слова, першая частка пішацца так, як пішацца яна ў родным склоне лічэбніка, будучы асобным словам: *трохдзённы, чатырохтóнны, шасціствóльны, шасцісóты, сямігóдка, васьмігадóвы, васьмісóты, дзевяцігрáдусны, дзесяцікласнік, саракагóддзе, саракàпяцітóнны, двухсòтметрóвы.*

Заўвага 1. Лічэбнікі ***сто*** і ***дзевяноста*** ў якасці першай часткі складаных слоў пішуцца без змены: *стодзённы, стотысячны, дзевяностагадовы, дзевяностарублёвы;* але: *стагоддзе, станожка.*

Заўвага 2. Складаныя словы, у якіх першай часткай з'яўляецца лічэбнік ***адна***, не маюць пабочнага націску і пішуцца як простыя словы: *аднагадóвы, адначасóва, аднaзнáчны, аднаразóвы, аднапавярхóвы.*

Заўвага 3. Частка ***поў-*** пішацца з ***о*** толькі пад націскам, не пад націскам ***о*** пераходзіць у ***а***: *пóўнач, пóўдзень, паўгóддзе, паўвóстраў, напаўадчынены.*

Заўвага 4. Лічэбнік ***дзве***, калі ўжываецца ў якасці першай часткі складаных слоў, уніфікуе родавую форму па аналогіі з лічэбнікам ***два***: *двукоссе, двукроп'е, двухдольны, двухзменны, двухмоўны, двухтысячны* і пад.

§ 112. Калі складаныя словы маюць у сваім саставе больш за дзве часткі, то кожная частка пішацца як асобна ўзятае слова. Напрыклад, напісанне слова *авіяматорабудаванне* можна праверыць праз напісанне слоў: *авія, матор, будаванне; аэрафотапрыбор* — праз напісанне слоў: *аэра, фота, прыбор.*

Заўвага. У якасці асобнай часткі могуць выступаць складаныя словы, якія ўтварыліся самастойна: напрыклад, для слова *паравозазавагонарамонтны* частка *паравоз* павінна разглядацца як самастойная.

§ 113. Злучальнымі галоснымі ў складаных словах могуць быць пры мяккай аснове першай часткі літары ***е, я,*** пры цвёрдай — ***а, о***; прычым літара ***о*** можа быць толькі пад націскам: *дабрабы́т, мнагато́мны, чарнаво́кі; куро́дым, сыро́ватка, тэхно́лаг; вуглездабы́ча, конегадо́ўля, насеннеачышча́льны;* ***е*** ў першым складзе перад націскам перадаецца праз ***я***: *Аленяго́рск, куляме́т, саляко́п, верхнялу́жыцкі, сярэднярýскі.*

## СКЛАДАНАСКАРОЧАНЫЯ СЛОВЫ

§ 114. Кожная састаўная частка складанаскарочанага слова пішацца так, як яна пісалася б у адпаведным асобна ўзятым поўным слове: *кампа́ртыя, гарсаве́т, прафсаю́з, сацспабо́рніцтва, сельма́г.*

Заўвага. У апошняй частцы некаторых складанаскарочаных слоў пад націскам можа аднаўляцца этымалагічнае *о*, якога ў поўным слове не бывае: *райко́м* (раённы камітэт), *нарко́м* (народны камісар), *селько́р* (сельскі карэспандэнт), *парто́рг* (партыйны арганізатар), *галоўхарчпро́м, дзяржаграпро́м* і інш.

§ 115. На мяжы састаўных частак раздзяляльныя апостраф і мяккі знак не пішуцца: *цэхячэйка;* але ***ь*** як знак мяккасці ў такіх выпадках пішацца: *косцьутыль.*

§ 116. У пачатку састаўных частак складанаскарочаных слоў ***і, е, ю, я*** не пераходзяць у ***ы, э, у, а***: *дзяржінспекцыя, педінстытут, палітінфармацыя, Дзяржюрвыдавецтва* і інш.

§ 117. Складанаскарочаныя словы, якія абазначаюць уласныя назвы ўстаноў і арганізацый, пішуцца з вялікай літары: *Саўмін СССР, Дзяржплан БССР, Белпрафсавет, Массавет.*

## ЛІТАРНЫЯ АБРЭВІЯТУРЫ

§ 118. Абрэвіятуры пішуцца разам, без кропак, без злучкоў і без апострафаў.

Заўвага. Спалучэнні дзвюх абрэвіятур, якія маюць самастойнае значэнне, пішуцца асобна: *ЦК КПБ, АН БССР* і інш.

§ 119. Вялікімі літарамі пішуцца:

1. Усе абрэвіятуры, якія чытаюцца па назвах літар: *СССР, БССР, КПСС.*

2. Усе абрэвіятуры, якія чытаюцца па гуках і абазначаюць назвы такіх устаноў і арганізацый, у якіх першае слова пішацца з вялікай літары: *БАМ, ТАСС, МХАТ,* а таксама *БЕЛТА.*

3. Абрэвіятуры, у якіх адна частка чытаецца па назвах літар, а другая па гуках, калі ў такіх абрэвіятурах ёсць хоць адно слова, якое пры поўным ужыванні пішацца з вялікай літары: *ЦДСА, ЦСУ, ДТСААФ.*

Заўвага. Абрэвіятуры, якія пішуцца вялікімі літарамі, пераважна не скланяюцца. Калі ж некаторыя з такіх абрэвіятур набылі ўласцівасць скланяцца, тады адпаведныя склонавыя канчаткі дапісваюцца да іх малымі літарамі без апострафа: *МХАТа, ТАССам.*

§ 120. Абрэвіятуры, якія чытаюцца па гуках ці па гуках і літарах, калі яны абазначаюць агульныя назвы, пішуцца малымі літарамі: *нэп, цэц* і інш.

### Розныя графічныя скарачэнні

З літарнымі абрэвіятурамі не трэба змешваць умоўных графічных скарачэнняў, якія ўжываюцца на пісьме, але заўсёды чытаюцца поўнасцю.

§ 121. Пры графічных скарачэннях ставіцца кропка і захоўваюцца тыя ж знакі і пачатковыя літары, якія ўласцівы поўнаму напісанню: *В.-Д. к.* (Волга-Данскі канал).

Заўвага. Стандартныя скарочаныя абазначэнні метрычных мер пішуцца без кропак: *га* (гектар), *см* (сантыметр), *кг* (кілаграм), *км* (кіламетр) і інш.

§ 122. Пры скарачэнні слоў трэба помніць, што нямажна скарачаць на галосную і на ***ь***, на ***й*** і на ***ў***.

Пры спалучэнні дзвюх аднолькавых зычных скарачэнне робіцца пасля першай зычнай: *насен. фонд,* а не *насенн. фонд.*

Пры збегу дзвюх або некалькіх розных зычных скарачэнне робіцца пасля апошняй зычнай: *народн. творчасць,* а не *народ. творчасць, руск. мова,* а не *рус. мова.*

## ПРАВІЛЫ ПЕРАНОСУ

§ 123. З аднаго радка ў другі словы пераносяцца па складах. Але адну літару, хоць яна і ўтварае склад, няможна ні пакідаць, ні пераносіць у новы радок.

§ 124. Пры пераносе няможна:

1. Пакідаць у канцы радка або пераносіць у новы радок дзве аднолькавыя зычныя, якія стаяць паміж галоснымі.

| Правільна: | Няправільна |
|---|---|
| *двац-цаць* | *дваца-аць, два-ццаць* |
| *насен-не* | *насе-нне* |
| *збож-жа* | *збо-жжа* |

2. Аддзяляць зычную ад наступнай галоснай.

| Правільна: | Няправільна |
|---|---|
| *вя-нок* | *вян-ок* |
| *кані-кулы* | *канік-улы* |

3. Аддзяляць ***й, ў*** ад папярэдняй галоснай.

| Правільна | Няправільна |
|---|---|
| *май-скі* | *ма-йскі* |
| *праў-да* | *пра-ўда* |

Але пры пераносе складаных слоў, у якіх другая частка пачынаецца на ***ў***, гэта ***ў*** пры першай частцы не пакідаецца.

| Правільна | Няправільна |
|---|---|
| *сена-ўборка* | *сенаў-борка* |

4. Аддзяляць ***ь*** і ' (апостраф) ад папярэдняй зычнай.

| Правільна | Няправільна |
|---|---|
| *буль-ба* | *бул-ьба* |
| *бур'-ян* | *бур-'ян* |

5. Раздзяляць ***дж, дз,*** калі яны абазначаюць адзін гук.

| Правільна | Няправільна |
|---|---|
| *даж-джы* | *дажд-жы* |
| *ура-джай* | *урад-жай* |
| *радзі-ма* | *рад-зіма* |
| *на-дзея* | *над-зея, надз-ея* |

Заўвага. Калі ***дж, дз*** не складаюць аднаго гука, а з'яўляюцца звычайным спалучэннем прыставачнай ***д*** з карэннымі ***ж, з,*** тады пры пераносе такія спалучэнні раздзяляюцца: *пад-жары, ад-значыць, пад-земны.* Тое ж можна сказаць і ў дачыненні спалучэння ***шч:*** *раш-чыняць, уш-ча-міць.*

§ 125. Пры пераносе складаных слоў няможна пакідаць у канцы радка адну пачатковую літару другой асновы.

| Правільна | Няправільна |
|---|---|
| *пяці-працэнтны* | *пяціп-рацэнтны* |

§ 126. Пры пераносе слоў з прыстаўкамі і часціцамі ***не, ні*** няможна разбіваць аднаскладовую прыстаўку (часціцу), калі за ёй ідзе зычная.

| Правільна | Няправільна |
|---|---|
| *раз-мах* | *ра-змах* |
| *ня-стомны* | *няс-томны* |

Аднаскладовыя прыстаўкі на зычную, за якімі ідуць галосныя (апрача ***ы***), могуць разбівацца пераносам: *без-аварыйны* і *бе-заварыйны; без-умоўна* і *бе-зумоўна; пад-аконнік* і *па-даконнік.*

Калі ж пасля такіх прыставак стаіць літара ***ы***, тады частку слова, якая пачынаецца з ***ы***, пераносіць не дазваляецца.

| Правільна | Няправільна |
|---|---|
| *па-дыход, пады-ход* | *пад-ыход* |
| *ра-зыграць, разыг-раць* | *раз-ыграць* |

Двухскладовыя прыстаўкі пераносяцца па складах: *пера-бегчы* і *пе-рабегчы; пада-браць* і *па-дабраць.*

§ 127. Пры пераносе слоў з прыстаўкамі няможна пакідаць у канцы радка пры прыстаўцы пачатковую частку кораня, калі яна не з'яўляецца складам: *на-браць,* а не *наб-раць.*

З а ў в а г а. Выключэнне з гэтага правіла складаюць словы, у якіх пасля прыставак ідуць *й, ў*. У такіх словах літары *й, ў* застаюцца пры прыстаўцы: *дай-сці, дайс-ці; заў-тра, заўт-ра.*

§ 128. У складанаскарочаных словах аднаскладовыя часткі пры пераносе не разбіваюцца.

| П р а в і л ь н а | Н я п р а в і л ь н а |
|---|---|
| *гар-ком* | *га-рком, гарк-ом* |

§ 129. Абрэвіятуры, якія складаюцца з адных пачатковых літар або са спалучэння літар і лічбаў, пераносам не разбіваюцца: *СССР, БССР, ТАСС, Ту-154, МАЗ-530.*

З а ў в а г а. У папярэдніх параграфах разгледжаны ў асноўным тыповыя выпадкі пераносу частак слоў у новы радок. Але трэба мець на ўвазе тое, што на практыцы могуць сустрэцца як зусім не падлягаючыя пераносу словы *(Азія, фае, авёс, асот, асець)*, так і такія словы, якія можна пераносіць некалькімі спосабамі *(ся-стра, сяс-тра, сяст-ра; тавары-ства, таварыс-тва, таварыст-ва)*. Да ліку апошніх звычайна будуць адносіцца словы са збегам зычных у суфіксальнай частцы.

§ 130. Не дазваляецца пераносіць прозвішчы, пакідаючы на канцы папярэдняга радка ініцыялы або іншыя ўмоўныя скарачэнні, якія адносяцца да прозвішчаў, напрыклад няможна пераносіць *Я.* | *Купала; К. М.* | *Міцкевіч; акад.* | *Карскі; праф.* | *Пічэта; т.* | *Грыгор'еў; гр.* | *Шаплыка; ван* | *Бетховен.*

§ 131. Пры пераносе няможна адрываць скарочаныя назвы мер ад тых лічбаў, да якіх яны адносяцца: *1917* | *г.; XX* | *ст.; 330* | *га; 75* | *км; 20* | *см²; 16* | *кг.*

§ 132. Пры пераносе няможна адрываць ад лічбаў звязаныя з імі злучком граматычныя канчаткі: *1* | *-е; 5* | *-га; 10* | *-му.*

§ 133. Пры пераносе няможна разбіваць умоўныя графічныя скарачэнні тыпу *і г. д., і інш., г. зн., т-ва.*

# СЛОЎНІК

## А

**аа́зіс**, -са
**аба́бак**, -бка; *р. мн.* -бкаў
**абабе́гчы**, абягу́; абяжы́м, абежыце́
**абабі́ць**, *незак.* **абіва́ць**
**абабра́ць**, абяру́; абяро́м, абераце́; *незак.* **абіра́ць**
**абавя́зак**, -зку
**абавяза́ць**, -вяжу́, -вя́жаш, -вя́жа
**абагаці́ць**, -гачу́, -гаці́ш; -гаці́м, -гаціце́
**абагачэ́нне**
**абагна́ць**, абганю́, абго́ніш; абго́няць
**абаграва́ць**, -раю́; -раём, -раяце́
**абагу́ліць**, *незак.* **абагу́льваць** (маёмасць)
**абагу́льванне**
**абагульне́нне**
**абагу́льніць**, *незак.* **абагульня́ць** (во́пыт, ду́мкі і пад.)
**абадзьму́ць**; -мём, -мяце́; *незак.* **абдзіма́ць**
**абазва́ць**, абзаву́; абзавём, абзавяце́
**абазнача́ць** *і* **абазна́чваць**
**абакра́сці**, *незак.* **абкрада́ць**
**абанеме́нт**, -та
**абане́нт**, -та
**абанкру́ціцца**
**аба́пал**
**абапе́рціся**, -пру́ся; -про́мся, -працёся; *незак.* **апіра́цца**
**абапёрты**
**абараназдо́льнасць**
**абара́нак**, -нка
**абара́ны** *і* **абво́раны**
**абарача́льнасць**
**абарачэ́нне**
**абарда́ж**, -жу, *месн.* -жы
**абаро́нца**, -цы, *дав., месн.* -цу, *тв.* -цам; *(у ж. р.) дав., месн.* -цы, *тв.* -цай
**абаро́т**, -ро́ту, *месн.* -ро́це
**абарыге́н**, -на; *р. мн.* -наў
**абвадні́ць**, *незак.* **абвадня́ць**
**абва́л**, -лу
**абвалака́ць**
**абвастры́ць**, абвастру́, абво́стрыш
**абве́сны** (лад)
**абве́стка**, *дав., месн.* -стцы; *р. мн.* -так
**абве́сці**; абвядзём, абведзяце́
**абве́траць**, -раю, -раеш, рае
**абве́шаць**, -шаю
**абвінава́ўца**, -цы, *дав., месн.* -цу, *тв.* -цам
**абвінава́чаны** *(прызнаны вінаватым)*
**абвінава́чваны** *(той, хто абвінавачваецца)*
**абві́ць**, абаўю́; абаўём, абаўяце́
**абво́д**, -ду
**абво́днены**

**абво́дны** (кана́л)
**абво́рваць**, абво́рваю
**абво́страны**
**абву́гліванне**
**абвяржэ́нне**
**абвясці́ць**, абвяшчу́, абве́сціш; *незак.* абвяшча́ць
**абвяшчэ́нне**
**абгаво́рваць**
**абга́рваць** *і* **абгара́ць**
**абгаро́джаны**
**абгаро́джваць**
**абгла́джаны**
**абгла́джваць**
**абгле́дзець**, -джу, -дзіш
**абго́н**, -ну
**абго́рнуты**
**абго́ртваць**
**абгрунтава́ны**
**абдары́ць**, абдару́, абдо́рыш
**абдзёўбваць**
**абдзіма́ць**, *зак.* абадзьму́ць
**абдзяўба́ны**
**абдыма́ць** *і* **абніма́ць**
**абе́д**, -ду, па абе́дзе
**абе́дзве**, -дзвюх, *дав.* -дзвюм, *тв.* -дзвюма
**абе́дзенны**
**аб'е́дзены**
**аб'е́дкі**, -каў
**абе́днены**
**аб'е́зд**, -ду, *(дарога)* -да
**аб'е́зджаны**
**аб'е́здчык**, -ка
**абеззара́жаны**
**абеззара́жванне**
**абеззара́зіць**, -ра́жу, -ра́зіш
**абеззяме́лены**
**аб'е́кт**, -та
**аб'ектывава́ны**
**аб'ектывіза́цыя**
**аб'ектыві́зм**, -му
**аб'ектыві́сцкі**
**аб'екты́ў**, -ты́ва
**аб'екты́ўны**
**абе́лены**
**абелі́ск**, -ка
**аберацы́йны**
**абера́цыя**
**абе́рнуты**
**аберто́н**, -ну
**абе́руч**
**абескаляро́ўваць**
**аб'е́сці**, аб'е́м, аб'ясі́, аб'е́сць; аб'ядзі́м, аб'ясце́, аб'яду́ць
**аб'е́сціся**, аб'е́мся, аб'ясі́ся, аб'е́сца; аб'ядзі́мся, аб'ясце́ся, аб'яду́цца
**аб'е́хаць**, аб'е́ду
**аб'ё́м**, -му
**аб'ё́мнасць**
**абжа́ць**, абажну́; абажнё́м, абажняце́
**абжо́ра**, -ры, *дав., месн.* -ру, *тв.* -рам; *(у ж. р.) дав., месн.* -ры, *тв.* -рай (-раю); *р. мн.* -жо́р *і* -жо́раў
**абзаве́сціся**; -вядзё́мся, -ведзяце́ся
**абзаво́дзіцца**, -джуся
**абза́ц**, -ца
**абіва́ць**, *зак.* абабі́ць
**абі́вачны**
**аб'і́нелы**
**аб'і́нець**, *незак.* аб'і́ньваць
**абісі́нец**, -нца, *месн.* -нцу
**абітурые́нт**, -та
**абі́ўка**, *дав., месн.* -ўцы
**абіўны́**
**абкапа́ны**
**абка́т**, -ту
**абка́тваць**
**абка́чванне** *(ад* абкача́ць — абка́чваць)
**абкрада́нне**
**абкла́сці**; абкладзё́м, абкладзяце́

**абклéены**
**абклéйваць**
**абкляванны**
**абкляваць**, *незак.* абклёўваць
**абкóм** (абласны камітэт), -ма
**абкóпванне**
**абкóпваць**
**абкóчванне** (*ад* абкаціць — абкóчваць)
**абкóшваць**
**абкружыць** *і* **акружыць**
**абкружэнне** *і* **акружэнне**
**абкýсаны**
**аблажны** (дождж)
**абламáны**
**абламáцца**, аблóміцца
**абламáць**, абламлю, аблóміш; *незак.* аблóмліваць; абламáў; *заг.* абламі
**абланá** (абласны аддзел народнай адукацыі), *нескл.*, *м.*
**абласны** Савéт; *але*: аблсавéт
**аблвыканкóм** (абласны выканáўчы камітэт), -ма
**абледзяняваць**
**аблéзці**
**аблéпліваць**, -ваю
**аблёт**, -ту
**аблётаць** (*усюды пабыць*)
**аблігáцыя**, *р. мн.* -цый
**абліцаваны**
**абліць**, абальюю; абальём, абальяцé
**аблічча**, *месн.* -ччы
**аблóга**, *дав.*, *месн.* аблóзе; *р. мн.* -лóг *і* -лóгаў
**аблóжны** (*ад* аблóга)
**аблóмліваць**
**аблямаваць**, *незак.* аблямóўваць
**аблясіць**, абляшý, аблéсіш
**абмáзка**, *дав.*, *месн.* -зцы
**абмалóт**, -ту

**абмаляваны**
**абматáны**
**абматычыць**
**абмежаваны**
**абмéн**, -ну
**абмéр**, -ру, *месн.* -ры
**абмéрванне**
**абмéрваць** *і* **абмяраць**
**абмéрзнуць**, абмёрз, абмéрзла
**абмеркаваны**
**абмéрці**, абамрý; абамрóм, абамрацé
**абмéсці**; абмяцём, абмецяцé
**абмёрзлы**
**абмінýць**; -нём, -няцé
**абмýляны**
**абмýляць**, -ляю
**абмундзіраваны**
**абмялéлы**
**абмялéнне**
**абмяніць**, -ню (*ненаўмысна ўзяць што-н. замест свайго*)
**абмяняць**, -няю (*сваё на раўнацэннае чужое*)
**абмяраць** *і* **абмéрваць**
**абмярцвéлы**
**абмяць**, абамнý; абамнём, абамняцé
**абнавіць**, абнаўлю, абнóвіш
**абнадзéіць**, -дзéю, -дзéіш; *незак.* абнадзéйваць
**абнарóдаванне**
**абнарóдаваць**, -дую, -дуеш
**абнімаць** *і* **абдымаць**
**абнóўлены**
**абнядýжаць**, -жаю
**абнясла́віць**, -сла́ўлю, -сла́віш
**абòгатварэнне**
**абóдва**, абóдвух, *дав.* абóдвум, *тв.* абóдвума
**абóе**, абаіх, *дав.* абаім, *тв.* абаімі
**абóз**, -зу

**абоі**, абояў, *адз. няма*
**абпальваць**
**абпраменьванне**
**абраз**, -за; *мн.* -зы
**абразіць**, абражу, абразіш
**абрасіць**, -рашу, -росіш
**абрастаць**, -таю
**аброць**, *тв.* -ццю
**абрубліванне**
**абрус**, -са; *мн.* абрусы
**абруч**, -ча, *месн.* -чы
**абрыдзець** *і* **абрыдаць**
**абрыкос**, -са, *(зборн., матэрыял)* -су
**абрыс**, -су
**абрысаваны**
**абрыў**, -рыву
**абрэвіятура**
**абрэз**, -зу, *(зброя)* -за
**абрэзак**, -зка; *р. мн.* -зкаў
**абсаджаны**
**абсалютызм**, -му
**абсалютыцкі**
**абсерваторыя**, *тв.* -рыяй
**абсеў**, абсеву
**абскарджаны**
**абскардзіць**, -джу, -дзіш; *незак.* **абскарджваць**
**абслуговы** (персанал)
**абсмаліць** (смалой), *незак.* **абсмольваць**
**абсмяяць**, -мяю, -мяеш; -мяём, -меяце
**абставіны**, -він, *адз. няма*
**абсталяваны**
**абстрагавацца**
**абстраляны**
**абстругваць**
**абструкцыянізм**, -му
**абстрэл**, -лу, *месн.* -ле
**абсцыса**
**абсцэс**, -су, *месн.* -се
**абсяваць** *і* **абсейваць**
**абтаптаны**
**абтоптваць**
**абточваць**
**абумовіць**, -моўлю, -мовіш
**абумоўліваць**
**абурэнне**
**абутак**, -тку
**абутковы**
**абуць**, абую, абуе
**абхазец**, -зца, *месн.* -зцу
**абхазка**, *р. мн.* -зак
**абхазскі**
**абход**, -ду, *(лясны ўчастак)* -да
**абходжаны**
**абходчык**, -ка
**абцас**, -са
**абцерці**, абатру, абатрэш, абатрэ; абатром, абатраце, абатруць; *незак.* **абціраць**
**абцярэбліваць**
**абчасаны**
**абчэсваць**
**абшаляваны**
**абшар**, -ру, *месн.* -ры
**абшукаць** *(зрабіць вобыск)*
**абы-адкуль**
**абывацель**, -ля
**абыграны**
**абыгрываць**
**абы-дзе**
**абы-калі**
**абы-колькі**
**абы-куды**
**абылгаць**, абылгу; абылжом, абылжаце
**абымшыць** (хату)
**абымшэлы**
**абымшэць** *(зарасці мохам)*
**абыржавелы**
**абысці**, абыду, абыдзеш, абыдзе; абыдзем, абыдзеце, абыдуць; абышоў

**во́семдзесят**, *родн., дав., месн.* васьмідзесяці, *тв.* васьмю́дзесяццю
**восемсо́т**, васьмісо́т, *дав.* васьмістáм, *тв.* васьмюстáмі, *месн.* васьмістáх
**во́сень**, *тв.* во́сенню
**во́сеньскі**
**во́спа**
**во̀стравуго́льнік**, -ка
**во̀страдэфіцы́тны**
**во̀стразарáзны**
**во̀страінфекцы́йны**
**во̀стракамбінацы́йны**
**во̀страканцо́вы**
**во̀страпахýчы**
**во́страў**; *мн.* астравы́
**вось**, во́сі, во́ссю; *мн.* во́сі, во́сей, во́сямі, аб во́сях
**вось-во́сь**, *прысл.*
**во́сьмы**
**во́сці**, во́сцяў, во́сцямі, *адз. няма*
**во́тум**, -му
**во́ўк**, во́ўка *і* ваўкá
**во̀ўнаапрацо́ўчы**
**во̀ўнапрадзéнне**
**во́хра** *і* о́хра
**во́цат**, во́цату, *месн.* -цаце
**во́чы**, вачэ́й, *тв.* вачáмі
**вýгаль**, вýгалю; *мн.* вугалí; *зборн.* вуго́лле
**вỳглебето́н**, -ну
**вỳглевадаро́д**, -ду
**вỳглездабы́ча**
**вỳглепрамысло́васць**
**вуглявóд**, -ду
**вуглявóз**, -за
**вуглякóп**, -па
**вуглянóсны**
**вугляро́д**, -ду
**вугляcóс**, -са
**вуго́льчык**
**вуго́р**, -грá
**вудзíльна**, *р. мн.* -наў
**вуж**, вужá
**вуздэ́чка**, *р. мн.* -чак
**вýзел**, вýзла, *(чыгункі)* вузлá
**вузкаплёначны**
**вỳзкарадко́вы**
**вýлачка**, *р. мн.* -чак
**вýлей**, вýлея *і* вуллЯ́; вуллí, вуллёў
**вýліца**, *р. мн.* вýліц
**вулканізавáць**, -зýю, *зак.* і *незак.*
**вулканíзм**, -му
**вундэркíнд**, -нда
**вýсы**, вусóў
**вýчань**, -чня, *тв.* -чнем
**вучэ́бна-трэнірóвачны**
**вýшы**, *тв.* вушáмі
**ВЦСПС** (Усесаюзны Цэнтрáльны Савéт Прафесíйных Саюзаў)
**вы́араць**, -ру, -раш
**вы́арфаваць**, вы́арфую
**вы́бавіць**, вы́бáулю, вы́бавіш
**вы́балбатаць**, -бачу, -бачаш, -бача
**вы́бар**, -ру, *месн.* -ры
**вы́бары**, -раў
**выбачáць** *(каму* і *без дап.)*
**выбачэ́нне**
**вы́бегчы**, вы́бегу, вы́бежыш; вы́бежым, вы́бежыце
**вы́біць**, вы́б'ю
**вы́браць**, вы́беру, вы́бераш, вы́бера
**вы́бух**, вы́буху, аб вы́буху
**выбухо̀ванебяспéчны**
**вы́валачы**, -лаку, -лачаш, -лача; -лачам, -лачаце
**вы́варацень**, -тня; *мн.* -ратні
**вы́вастрыць**
**вы́везці**, -зу
**вы́весці**, вы́веду, вы́ведзеш
**вывéтрываць**

**вы́веяць**, вы́вею, вы́вееш, вы́вее; *незак.* **вывейваць**

**вы́віх**, вы́віху, аб вы́віху

**вы́віць**, вы́ўю, вы́ўеш, вы́ўе

**вы́вудзіць**, -джу, -дзіш; *незак.* **вывуджваць**

**вывучэнне**

**вывяржэнне**

**вы́габлеваць**, -блюю

**вы́габлеваны**

**выгаворваць**

**вы́ган**, -ну

**вы́гаралы**

**выгараць**, -рае *і* **выгарваць**, -вае

**вы́гладжаны**

**вы́гладзіць**, *незак.* **выгладжваць**

**вы́гляд**, -ду

**вы́глядзець**

**выгнанец**, -нца, *месн.* -нцу

**выгортваць**, -ваю

**вы́гравіраваны**

**вы́гук**, -ку

**выдавец**, -даўца

**выдатак**, -тку

**выдаткаванне**

**вы́дзеўбці**, -бу

**вы́драць**, вы́дзеру, вы́дзераш, вы́дзера; вы́дзерам, вы́дзераце, вы́дзеруць

**вы́дрэсіраваць**, -рую

**вы́дубіць**, -блю, -біш

**выдумляць**

**вы́дых**, вы́дыху, аб вы́дыху

**вы́езд**, -ду

**вы́ездзіць**, -джу, -дзіш

**вы́есці**, вы́ем, вы́есі, вы́есць; вы́едзім, вы́есце, вы́едуць

**вы́ехаць**, вы́еду, вы́едзеш, вы́едзе; вы́едзем, вы́едзеце

**вы́жым**, -му

**выйграваць**, -раю; -раём, -раяце; *зак.* **вы́йграць**

**вы́йгрыш**, -шу

**вы́йсці**, вы́йду, вы́йдзеш, вы́йдзе

**выканаўца**, -цы, *дав., месн.* -цу, *тв.* -цам; *(у ж. р.) дав., месн.* -цы, *тв.* -цай (-цаю)

**вы́кас**, -су, *месн.* -се

**вы́каціцца**, вы́качуся, вы́кацішся

**вы́кіпець**, *3 адз.* **вы́кіпіць**

**вы́клеіць**, вы́клею; **вы́клеяць**

**вы́кленчыць**, *незак.* **выкленчваць**

**вы́клепаць**, -паю і вы́клеплю

**вы́клік**, -ку

**выклічнік**, -ка

**выконваць**

**выкопванне**

**выкормліваць**

**выкочваць**

**выкошваць**

**вы́краслены**

**выкройваць**

**выкрутасы**, *адз. няма*

**вы́крык**, -ку

**вы́куп**, -пу

**вы́ламаны**

**вы́ламацца**, *3 адз.* **вы́ламіцца**

**вы́ламаць**, вы́ламлю, вы́ламіш; *незак.* **выломліваць**; **вы́ламаў**; *заг.* вы́ламі

**вы́лепіць**, вы́леплю, вы́лепіш

**вы́лет**, -ту

**вы́лік**, -ку

**вы́ліняць**, -няю

**вы́ліць**, вы́лью, вы́льеш, вы́лье

**выломліваць**

**вылучэнец**, -нца, *месн.* -нцу

**вы́мавіць**, вы́маўлю, вы́мавіш

**вы́мерлы**

**вы́месіць**, вы́мешу, вы́месіш

**вымова** *(спагнанне), р. мн.* вымоў

**вы́мусіць**, вы́мушу, вы́мусіш; *незак.* **вымушаць**

**вы́мя**, вы́мя, вы́мю, вы́мя, вы́мем, аб вы́мі; вы́мі, вы́мяў, вы́мям, вы́мі, вы́мямі, аб вы́мях
**вы́нас**, -су
**вынахо́дства**, *р. мн.* -ваў
**вы́нік**, -ку
**вы́няньчыць**, *незак.* **выня́ньчваць**
**вы́няць**, вы́му, вы́меш, вы́ме; вы́мем, вы́меце, вы́муць
**вы́падак**, -дку
**вы́пасвіць**, -су, -сеш, -се
**вы́пацкаць**, -каю, -каеш, -кае
**вы́песціць**, вы́пешчу, вы́песціш
**вы́пісаць**, вы́пішу, вы́пішаш, вы́піша
**выпла́чванне**
**вы́плыць**, вы́плыву
**выпрабава́нне**
**вы́прагчы**, -рагу, -ражаш, -ража; *3 мн.* -рагуць
**выпраме́ньванне**
**вы́прасаваны**
**вы́прасці**, -раду, -радзеш, -радзе
**вы́працаваць**, -цую
**выпро́стваць**
**выпро́шваць**
**вы́пудзіць**, -джу, -дзіш
**вы́пукла-ўвагну́ты**
**вы́пуск**, -ку
**выпуска́нне**, -нні
**вы́пырхнуць**, *незак.* **выпы́рхваць**
**выпы́тваць**
**вырадж́энец**, -нца, *месн.* -нцу
**выраза́ць**, -за́ю *і* **выр́эзваць**, -ваю
**выраста́ць**, *зак.* **вы́расці**
**выро́шчваць**
**высакаво́льтавы** *і* **высакаво́льтны**
**высакаго́рны**
**высакаме́рна**
**высакапа́рна**
**высакапро́бны**
**высакаро́ддзе**
**высакаро́дны**
**высакаро́слы**
**высакаско́расны**
**высакасо́ртны**
**высакая́касны**
**высако́сны** (год)
**вы́светліць**
**вы́свідраваць**, -рую; *незак.* **высвідро́ўваць**
**вы́свістаць**, -вішчу; *незак.* **высві́стваць**
**высвятля́ць**
**вы́сеў**, вы́севу
**вы́сечы**, вы́секу, вы́сечаш, вы́сеча
**вы́слаць**, вы́шлю (па по́шце)
**вы́слаць**, вы́сцелю
**вы́слізнуць**, *незак.* **выслі́згваць**
**высо̀каадукава́ны**
**высо̀кааўтарыт́этны**
**высо̀кабарто́вы**
**высо̀кавітамі́нны**
**высо̀кагатунко́вы**
**высо̀каідэ́йны**
**высо̀какалары́йны**
**высо̀кakвaліфікава́ны**
**высо̀камаста́цкі**
**высо̀капрац́энтны**
**высо̀касцябло́вы**
**высо̀катэхні́чны**
**высо̀каўраджа́йны**
**высо̀каўрачы́сты**
**вы́спець**, -пее; *незак.* **выспява́ць**
**вы́ставачна-дэманстрацы́йны**
**вы́стаўка**; Вы́стаўка дасягне́нняў наро́днай гаспада́ркі (ВДНГ)
**вы́студзіць**, -джу, -дзіш; *незак.* **высту́джваць**
**высыса́ць**, *зак.* **вы́ссаць**
**высява́ць**, -ва́ю
**высяка́ць**, *незак.*
**вытво́рча-тэхні́чны**

**вытво́рча-фіна́нсавы**
**вытво́рча-эканамі́чны**
**вы́ткаць,** вы́тку, вы́тчаш, вы́тча
**вытóк,** -ку
**вытóптваць**
**вытóчваць**
**вы́тралеваць**
**вы́хад,** -ду, *(дзверы, вароты і пад.)* -да
**выхадны́**
**вы́цвеpaзіць,** *незак.* **выцвярэ́жваць**
**вы́цяць,** вы́тну, вы́тнеш, вы́тне
**вы́чарціць**
**вы́часаць,** вы́чашу, вы́чашаш, вы́чаша
**вычэ́рпваць**
**вычэ́рчваць**
**вышыня́;** *мн.* вышы́ні, вышы́нь
**вышэйпада́дзены**
**вышэйпамянёны**
**выязджа́ць**
**выязны́**
**вэ́ксаль,** -ля
**вэ́люм,** -му
**вэ́ндзіць,** -джу, -дзіш
**вядрó;** *мн.* вёдры, вёдзер *і* вёдраў
**вяз,** вя́за. *(зборн., матэрыял)* вя́зу
**вяза́льна-трыкатажны**
**вялікадзяржа́ўны**
**вяндлі́на** *і* **вянглі́на**
**вяпрýк,** вепрука́
**вярба́;** *мн.* вéрбы, -баў
**вярблю́джы**
**вярбня́к,** вербнякý
**вярзці́,** -зý, -зёш, -зé; -зýць
**вярхóўны;** Вярхóўны Савéт СССР; Вярхóўны Савéт БССР
**вяршы́ня;** *мн.* вяршы́ні, вяршы́нь
**вяры́цельны;** Вяры́цельная гра́мата
**вясéлле,** *месн.* -ллі
**вясéнне-пасяўны́**
**вясéння-лéтні**
**вяха́;** *мн.* вéхі, вех

## Г

**гаалян,** -ну
**габардзі́н,** -ну
**габары́т,** -ту
**габлява́ны**
**гаварýн,** -на́
**гавóрка,** *дав., месн.* -рцы
**гадава́нец** *(чалавек)* -нца, *месн.* -нцу
**гадзі́ннік,** -ка
**гадзю́ка,** *дав., месн.* -дзю́цы; *р. мн.* -дзю́к
**гады́ ў рады́**
**гàзаасвятлéнне**
**гàзаачышча́льнік,** -ка
**гàзагенера́тар,** -ра
**газалі́н,** -ну
**гàзападóбны**
**гàзаправóд,** -да
**газéль,** *тв.* -ллю
**газéта,** *месн.* -зеце
**газірава́ны**
**газіфікава́ць,** -кýю
**газіфіка́цыя,** *тв.* -цыяй
**гай,** гáю, аб гáі; *але:* у гаі́
**гаймары́т,** -ры́ту, *месн.* -ры́це
**галава́;** *мн.* галóвы, галóў; *з лічэбнікамі 2, 3, 4* галавы́
**галавакружэ́нне**
**галавалóмка,** *дав., месн.* -мцы
**галалёд,** -ду
**гала́ндзец,** -дца, *месн.* -дцу
**гала́ндскі**
**галантарэ́йны**
**галасава́нне**
**галаслóўны**
**галéнне**
**галерэ́я**

**галéц**, -льцá, *месн.* -льцы́
**гáлій**, -лію
**галіна** *і* **галінá** *(у дрэва), тв.* -най, -нóй (-нóю)
**галінá**, *тв.* -нóй *(навукі, гаспадаркі)*
**галінáсты**
**галіфэ́**, *нязм., н.*
**галóснасць**
**галòўбýх**, -ха, *месн.* -ху
**галòўнакамáндуючы**
**галòўпаштáмт**, -та
**галòўурáч**, -чá, *месн.* -чý
**галòўхарчпрóм**, -ма
**гальванаплáстыка**, *дав., месн.* -тыцы
**гальванóметр**, -ра
**гáльштук**, -ка
**галюцынáцыя**
**гамеапáт**, -пáта, *месн.* -пáце
**гамеры́чны**
**ганарáр**, -ру
**ганарóвы**; Ганарóвая грáмата
**гáндаль**, -длю, *месн.* -длі
**гандальéр**, -ра, *месн.* -ру
**гандбóл**, -ла
**гандлёва-прамыслóвы**
**ганчáр**, -рá, *месн.* -рý
**гáньба**, *р. мн.* гáньбаў
**ганьбавáць**, -бýю
**гáньбіць**, -блю, -біш
**гарá**, *р. мн.* гор
**гараджáнін**, -на
**гарадзíць**, гараджý, гарóдзіш
**гарадóшнік**, -ка, *месн.* -ку
**гарадскі Савéт**; *але:* гарсавéт
**гарáж**, -жá, *месн.* -жы́
**гаранá**, *нязм., м.*
**гарантавáць**, -тýю
**гарáнтыя**, *р. мн.* -тый
**гарвыканкóм**, -ма
**гардзíна**, *р. мн.* -дзін
**гардэмары́н**, -на
**гардэ́нія**
**гардэрóб**, -ба, *(адзенне)* -бу
**гаркóм**, -ма
**гаркóта**
**гарманíраваць**, -рую
**гáрнец**, гáрца, *месн.* гáрцы
**гарнíр**, -ру
**гарня́к**, -кá
**гарня́цкі**
**гарóх**, гарóху, аб гарóсе
**гарóхавішча**
**гартавáнне**
**гартэ́нзія**
**гáрус**, -су
**гаршкóвы**
**гаршчóк**, гаршкá
**гарызóнт**, -та
**гары́ла**, *ж.*
**гарэ́за**, *агульн.; м. дав.* -зу, *тв.* -зам; *ж. дав., месн.* -зе, *тв.* -зай (-заю)
**гарэ́заваць**, -зую
**гарэльéф**, -фа
**гаспадàрчаразлікóвы**
**гасразлíк**, -ку
**гастралёр**, -ра, *месн.* -ру
**гастралявáць**, -лю́ю
**гастранамíчны**
**гастры́т**, -ту
**гасцíнец**, -нца
**гасцíннасць**
**гасцíць**, гашчý, гóсціш
**гатавáльня**, *р. мн.* -няў
**гатýнак**, -нку
**гатункóвы**
**гаты́чны** (стыль)
**гáўбіца**
**гаўптвáхта**
**гафры́раваны**
**гафт**, -ту
**гацíць**, гачý, гáціш
**гвардзéец**, -дзéйца, *месн.* -дзéйцу
**гвардзéйскі**

**гва́рдыя**
**геа...**— першая частка складаных слоў, пішацца заўсёды разам
**гèабата́ніка**
**геаграфі́чны**
**геагра́фія**
**геадэзі́чны**
**геалагі́чны**
**геало́гія**
**геаметры́чны**
**геаме́трыя**
**гèатрапі́зм**, -му
**геафізі́чны**
**геахімі́чны**
**гèахраналóгія**
**гèацэнтры́зм**, -му
**гèацэнтры́чны**
**гегемо́нія**
**гее́на** *(пекла)*
**ге́йзер**, -ра, *месн.* -ры
**гекза́метр**, -ра, *месн.* -ры
**гекса́эдр**, -ра, *месн.* -ры
**гектава́т-гадзі́на**, гектава́т-гадзі́ны
**гектаграфава́ць**, -графу́ю
**гектаме́тр**, -ра, *месн.* -ры
**гекта́р**, -ра, *месн.* -ры
**гекто́граф**, -фа
**гелія...**— першая частка складаных слоў, пішацца заўсёды разам
**геліягра́фія**
**гèліятрапі́зм**, -му
**геліятро́п**, -па, *(мін., бат., зборн.)* -пу
**гèліятэрапі́я**
**гèліяцэнтры́зм**, -му
**генацы́д**, -ду
**генеалагі́чны**
**генеало́гія**
**ге́незіс**, -су
**генера́л-ба́с**, генера́л-ба́са
**генера́л-губерна́тар**, генера́л-губерна́тара
**генера́л-дырэ́ктар**, генера́л-дырэ́ктара
**генералí́сімус**, -са
**генералітэ́т**, -ту
**генера́л-лейтэна́нт**, генера́л-лейтэна́нта
**генера́л-маёр**, генера́л-маёра
**генера́л-палко́ўнік**, генера́л-палко́ўніка
**генера́льны**; Генера́льная Асамбле́я Арганіза́цыі Аб'ядна́ных На́цый; Генера́льны сакрата́р ЦК КПСС
**гене́тыка**, *дав., месн.* -тыцы
**генеты́чны**
**ге́ній**, -нія, *месн.* *(аб вышэйшай творчай здольнасці)* -ніі; *(аб чалавеку)* -нію
**геніяльны**
**гео́граф**, -фа
**гео́лаг**, -га, *месн.* -гу
**геòлагаразве́дачны**
**гераі́зм**, -му
**гера́льдыка**
**геральды́чны**
**герб**, герба́
**ге́рбавы**
**герба́рый**, -рыя, *месн.* -рыі
**геркуле́с**, -са, *(крупы)* -су
**герма́ній**, -нію, *месн.* -ніі
**герметы́чны**
**геро́й**, -ро́я, *месн.* -ро́ю; Геро́й Саве́цкага Саюза; Геро́й Сацыялісты́чнай Пра́цы
**гібрыдыза́цыя**
**гіга́нцкі**
**гігіе́на**
**гіграскапі́чны**
**гідра...** *(пад націскам гідро...)* — першая частка складаных слоў, пішацца заўсёды разам
**гідраавія́цыя**
**гі̇драбіяло́гія**

**гідрамѐтэаслу́жба**, -бы
**гі́драстаты́чны**
**гідрасульфіт**, -ту, *месн.* -фіце
**гідра́т**, -ту
**гідраўлічны**
**гідраэлектраста́нцыя**
**гідро́граф**, -фа
**гідро́ліз**, -зу
**гідро́метр**, -ра, *месн.* -ры
**гіе́на** *(жывёліна)*
**гільяцінa**
**гімна́стыка**, *дав.*, *месн.* -тыцы
**гімнасты́чны**
**гімнасцёрка**
**гінекало́гія**
**гінеко́лаг**, -га, *месн.* -гу
**гіпапата́м**, -ма
**гіпатэну́за**
**гіпатэты́чны**
**гіпербало́ід**, -да
**гіпнатызава́ць**, -зу́ю
**гіпнатызёр**, -ра, *месн.* -ру
**гіпно́з**, -зу
**гіпо́тэза**
**гіпс**, -су
**гіпсава́нне**
**гіпю́р**, -ру, *месн.* -ры
**гістарыёграф**, -фа
**гістары́чна-літарату́рны**
**гістары́чна-рэвалюцы́йны**
**гістары́чнасць**, *тв.* -сцю
**гістары́чна-філалагічны**
**гістары́чна-філасо́фскі**
**гістарыяграфічны**
**гістарыягра́фія**
**гіяцы́нт**, -та, *(мін., бат., зборн.)* -ту
**гладкашэ́рсны**
**гладчэ́йшы**
**гладыёлус**, -са
**гладыя́тар**, -ра, *месн.* -ру
**гла́ўберава соль**
**глѐбаапрацо́ўчы**
**глѐбаахо́ўны**
**глебазна́вец**, -зна́ўца, *месн.* -зна́ўцу
**гле́дзячы**
**глеісты**
**гле́тчар**, -ра, *месн.* -ры
**гліна-саламя́ны**
**гліса́нда**, *нязм.*, *н.*
**глісер**, -ра, *месн.* -ры
**гліцэры́на**
**глум**, глу́му
**глуханямы́**
**глухме́нь**, -ні, *ж.*
**глу́хнуць**
**глу́ш**, -шы́, *тв.* глу́шшу
**глушэ́ц**, -шца́, *месн.* -шцы́
**глыб**, *родн.*, *дав.*, *месн.* глы́бі; *але*: у глыбі, *тв.* глы́б'ю
**глыбакаво́дны**
**глыбакаду́мны**
**глыбіня́**, глыбіні; *р. мн.* глыбінь
**глыбо̀капаважа́ны**
**глыбо̀кашано́ўны**
**глыну́ць**, *незак.* глыта́ць
**глыто́к**, -тка́
**гляда́ч**, гледача́, *месн.* -чу́
**глядзе́льны**
**глядзе́ць**, -джу́, -дзіш; -дзім, гледзіце́
**гля́нец**, -нцу, *месн.* -нцы
**глянцава́ць**, -цу́ю
**гнасеалагічны**
**гнасеало́гія**
**гнастыцы́зм**, -му
**гнаявік**, гнаевіка́
**гнаяро́дны**
**гнаясхо̀вішча**
**гнездава́нне**
**гнейс**, -су
**гне́сці**, гняту́, гняце́ш, гняце́; гняцём, гнецяце́
**гніласны**
**гніллё**

**гно̀епагрýзчык**, -ка
**гно̀ераскіда́льнік**, -ка
**гнóстык**
**гнýцца**, гнýся; гнёмся, гняцéся
**гнуць**, гну; гнём, гняцé
**гóгаль-мóгаль**, гóгаль-мóгалю
**гóгат**, -ту
**год**, гóда; *але:* з гóду ў год; год ад гóду; *мн.* гады́, гадóў *і* год
**год-другі**
**гóдзе**, *нязм.*
**гóднасць**
**го̀лагалóвы**
**гóлад**, -ладу, *месн.* -ладзе
**го̀ланасéнныя**
**гóлас**, -су, *(пры галасаванні)* -са
**гóлуб**, -ба; *мн.* галубы́
**гольф**, -фа
**гóман**, -ну
**гóнар**, -ру, *месн.* -ры
**гонг**, гóнга
**гóні**, гóней, *адз. няма*
**гóнкі**, гóнак, *адз. няма, спарт.*
**гóнты**, -таў, *адз.* гóнта
**гóрад**; *мн.* гарады́
**го̀радабудаўніцтва**
**гóрад-герóй**, гóрада-герóя
**гóра-кіраўнік**, гóра-кіраўнікá
**гóран**, гóрна
**гóрасць**
**го̀раўтварэ́нне**
**гóрача**
**горб**, гарбá
**гóрдзіеў вýзел**
**гóрка-салёны**
**горн**, гóрна
**го̀рназавóдскі**
**го̀рназдабывáючы**
**го̀рналы́жны**
**гóрна-лясісты**
**го̀рнапрамыслóвы**
**го̀рнарабóчы**
**го̀рнарýдны**
**го̀рнастралкóвы**
**гóршаць**
**гóрыч**, -чы, *тв.* -ччу
**госць**, гóсця, *тв.* -сцем, *месн.* -сцю; *р. мн.* гасцéй
**гóтыка**, *дав., месн.* -тыцы
**гóцкі** (*ад* гóты)
**граб**, гра́ба, *(зборн., матэрыял)* гра́бу
**граба́р**, -рá, *месн.* -рý
**грабéж**, -бяжý
**грабéньчык**, -ка
**грабéц**, -бцá, *месн.* -бцý
**грабянéц**, -нцá
**гравёр**, -ра, *месн.* -ру
**гра́вій**, -вію, *месн.* -віі
**град**, гра́ду
**градабóй**, -бóю, *месн.* -бóі
**граданача́льнік**, -ка
**градзіраванне**
**гра̀зелячэ́бніца**
**гразь**, гразі, *тв.* гра́ззю
**грамадзя́нін**
**грамадзя́нства**
**грама́дска вытвóрчы**
**грама́дска кары́сны**
**грама́дска неабхóдны**
**грама́дска-палітычны**
**грама́дска-эканамічны**
**гра́мата**; Адзыўна́я гра́мата; Вяры́цельная гра́мата; Ганарóвая гра́мата; Пахва́льная гра́мата; Ратыфікацы́йная гра́мата
**грам-а́там**, грам-а́тама
**грама́тыка**, *дав., месн.* -тыцы; *р. мн.* -тык
**граматы́чны**
**грам-калóрыя**, грам-калóрыі
**грам-малéкула**, грам-малéкулы
**грамóвы**
**грампласцінка**, *дав., месн.* -нцы

**грандыёзны**
**граніт**, -ніту
**гранульваны**
**гратэск**, -ку
**графалогія**
**графема**, *р. мн.* -фем
**графіт**,-фіту
**графолаг**, -га, *месн.* -гу
**грацыёзны**
**грачанішча**
**грачаня** *і* **грачанё**, -няці
**грашова-рэчавы**
**грашыць**, грашу, грэшыш, грэшыць; грэшым, грэшыце, грэшаць
**грог**, -гу
**грозьба**
**гро̀маадвод**, -да, па -дзе; *але: у размерк. знач.* па -ду
**гро̀мападобны**
**гро̀нкападобны**
**гро̀смайстар**, -стра, *месн.* -стру
**гро̀смайстарскі**
**грот-мачта**, грот-мачты
**грош**, гроша, *месн.* грошы; *мн.* грошы, грошаў
**грошы**, -шай, *дав.* грашам, *тв.* грашамі
**грубашэрсны**
**груваcткі**
**грувасціць**, -шчу, -сціш
**грудзі**, -дзей, *тв.* -дзямі *і* -дзьмі, *адз. няма*
**груз**, грузу
**гру̀заабарот**, -ту
**грузавік-самазвал**, грузавіка-самазвала
**грузаёмістасць**
**грузапад'ёмнік**, -ка
**грузд**, -да
**грузкі**
**грузнуць**
**грузчык**, -ка
**грук**, -ку
**грукат**, -ту
**грукатаць**, -качу, -кочаш, -коча
**грунтавы**
**грунтвага**, *дав., месн.* -зе
**групаваць**, -пую
**групаўшчына**
**групоўка**, *дав., месн.* -ўцы; *р. мн.* -вак
**груша**, -шы
**грыб**, грыба, *тв.* грыбам
**грыгарыянскі** (каляндар)
**грызці**; грызём, грызяце
**грымець**, -млю, -міш
**грымёр**, -ра, *месн.* -ру
**грыміраванне**
**грып**, грыпу
**грэбаваць**, -бую
**грэ̀бенепадобны**
**грэ̀бенечасальны**
**грэбень**, -беня; *мн.* грабяні, -нёў
**грэблевы** (*ад* грэбля)
**грэблівы** (*ад* грэбаваць)
**грэбці**, грабу; грабём, грабяце
**грэйдэр**, -ра, *месн.* -ры
**грэйпфрут**, -та
**грэнадзёр**, -ра, *месн.* -ру
**грэцкі** (арэх)
**грэчаскі** (грэчаская мова)
**грэчка**, *дав., месн.* -чцы; *р. мн.* -чак
**губернскі**
**губерня**, *р. мн.* -рняў
**губна-губны**
**губна-зубны**
**гудраніраваць**, -рую
**гудрон**, -ну
**гуж**, гужа, *тв.* гужам, *месн.* аб гужы
**гузыр**, -ра, *месн.* -ры
**гук**, гуку, (*фанетычны тэрмін*) гука

**гуказáпіс**, -су, *месн.* -се
**гỳкаперайма́льны**
**гу́капіс**, -су, *месн.* -се
**гỳкаспалучэ́нне**
**гỳкаўло́ўнік**, -ка
**гуллі́вы**
**гу́льдэн**, -на
**гуля́ш**, -шу́, *месн.* -шы́
**гуманíзм**, -му
**гуманісты́чны**
**гума́ннасць**
**гу́мар**, -ру, *месн.* -ры
**гумарысты́чны**
**гумарэ́ска**, *р. мн.* -сак
**гумéнны**
**гуміарáбік**, -ку
**гусíцкі**, *гіст.*
**густ**, гу́сту, *месн.* гу́сце
**гу́ста-зялёны**
**гỳстанасéлены**
**гу́ста пасáджаны**
**густашэ́рсны**
**гусцí**, гуду́, гудзéш, гудзé; гудзём, гудзяцé, гуду́ць
**гусь**, -сі, *тв.* гу́ссю
**гусяня́** *і* **гусянё**, -няці
**гутаркóвы**
**гучáць**
**гушчáр**, -ру́, *месн.* -ры́
**гушчыня́**
**гэ́бель**, гэ́бля
**гэй**, *выкл.*
**гэ́тулькі**
**гяу́р**, -ра, *месн.* -ру

## Д

**дабрабы́т**, -бы́ту
**дабравóлец**, -льца, *месн.* -льцу
**дабрадзéй**, -дзéя, *месн.* -дзéю
**дабрáнач**, *выкл.*
**дабратвóрны**
**дабрáць**, дабяру́; дабярóм, даберацé
**дабрачы́нец**, -нца, *месн.* -нцу
**дабраякасны**
**дабры́дзень**; *але:* дóбры дзень
**дабрысцí**, -брыду́; -брыдзём, -брыдзяцé
**дабялá**, *прысл.*
**даваéнны**
**давéр'е**
**давéрху**, *прысл.*
**давіднá**
**давóлі-такі**, *прысл.*
**дагавóр**, -ру, *(дакумент)* -ра
**дагавóрваць**
**дагадзíць**, дагаджу́, дагóдзіш, дагóдзіць; *незак.* **дагаджáць**
**дагáрваць** *і* **дагарáць**
**дагары́** (дагары́ нагáмі); *але:* да гары́ (да гары́ тры кіламéтры)
**даглéдзець**, -джу, -дзіш (дзіця́)
**даглядзéць** (да канцá)
**дагматы́зм**, -му, *месн.* -ме
**дагэ́туль**, *прысл.*
**дадáтак**, -тку
**дáдзены**
**дадóму**, *прысл.*
**дадэкáэдр**, -ра, *месн.* -ры
**дажáць**, -жну́; -жнём, -жнянé
**дажджавáнне**
**дажджавíк**, -кá
**дажджлíвы**
**дажы́нкі**, -нак, *адз. няма*
**да запатрабавáння**
**да зарэ́зу**
**да зáўтра**
**дазвóл**, -лу
**дазімéтр**, -ра, *месн.* -ры
**дазіметры́чны**
**дазімéтрыя**
**дазóр**, -ру, *(атрад)* -ра, *месн.* -ры
**даíць**, даю́, дóіш; *3 мн.* дóяць
**дайгравáць**, -раю́; -раём, -раяцé

**дайгра́ць**, -ра́ю
**дайсці́**, дайду́, до́йдзеш
**дака́нчваць** *і* **дако́нчваць**
**дакастры́чніцкі**
**да́ктыль**, -ля, *месн.* -лі
**даку́ка**, *дав., месн.* даку́цы
**даку́ль**, *прысл.*
**дакуме́нт**, -та
**дакументава́ць**, -ту́ю
**дала́й-ла́ма**
**далако́п**, -па, *месн.* -ко́пе
**далама́ны**
**далама́цца**, дало́міцца
**далама́ць**, даламлю́, дало́міш; *незак.* **дало́мліваць**; **далама́ў**; *заг.* даламі́
**даламі́т**, -ту
**дале́й**
**да́лей-бо́лей**
**далёка-далёка**
**далёкаўсхо́дні**
**даліка́тнасць**
**далікатэ́с**, -су
**дало́нь**, *тв.* -нню, *ж.*
**дальнабо́йны**
**дальтані́зм**, -му
**далягля́д**, -ду
**дамаро́слы**
**дама́скі** (дама́ская сталь)
**даматка́ны**
**даміні́ён**, -на
**дамкра́т**, -та
**дамча́ць**
**да́ныя**; статысты́чныя да́ныя
**дані́зу**; *але:* з ве́рху да ні́зу
**дано́счык**, -ка
**данты́ст**, -ста, *месн.* -сце
**да пабачэ́ння**
**да пары́**
**дапасава́ны**
**да паўно́чы**
**да паўсме́рці**
**дапільнава́ны**
**дапрацава́ны**
**дапрызы́ўнік**, -ка
**дап'яна́**, *прысл.*
**даравальны**; Дарава́льная гра́мата
**даражы́ць**, -жу́; -жыце́
**даражэ́нькі**
**дарвіні́зм**, -му
**даро́жна-будаўні́чы**
**дарэвалюцы́йны**
**дарэфо́рменны**
**дарэ́чы**
**дарэ́шты**
**дасве́дчанасць**
**даскана́ла**
**даскрэ́бці**; даскрабём, даскрабяце́
**дасла́ць**, -шлю́; -шляце́
**дасле́даванне**
**дасле́даваць**, -дую
**дасле́днік**, -ка
**дасле́дчык**, -ка
**дасло́ўна**, *прысл.*
**да сме́рці**
**даспадо́бы**, *прысл.*
**даста́так**, -тку
**дасу́ха**, *прысл.*
**дасці́пны**
**дасы́та**, *прысл.*
**дасю́ль**, *прысл.*
**дасягне́нне**
**дасягну́ць**, дасягну́, дасягне́ш
**дату́ль**
**датэрміно́ва**
**даўгаве́чнасць**
**даўгагры́вы**
**даўгале́цце**
**даўгано́гі**
**даўгано́сік**, -ка
**даўгано́сы**
**даўгата́** *(геагр.)* -ты́; *мн.* даўго́ты, даўго́т
**даўгача́сны**

**даўгашы́і**, -шы́яя, -шы́яе
**даўгашэ́рсны**
**даўгуне́ц**, -нцу́, *месн.* -нцы́
**даўжыня́**, -ні́
**даўно́мінулы**
**даўны́м-даўно́**
**да ўпа́ду**
**даха́ты**, *прысл.; але:* да ха́ты, *наз. з прыназ.*
**даць**, дам, дасі́, дасць; дадзі́м, дасце́, даду́ць
**дацэ́нт**, -нта, *месн.* -нце
**дацэ́нцкі**
**дацямна́**
**дача́сна**
**да ча́су**
**дачка́**, *дав., месн.* дачцэ́; *мн.* до́чкі, дачо́к, до́чкам, до́чкамі, до́чках
**даччы́н**, -на́, -но́
**дачы́рвана**
**дачыста́**
**дашчыпа́ць**, дашчыплю́, дашчы́плеш, -пле
**дашчэ́нту**
**два**, двух, двума́
**дваі́стасць**
**дваі́ць**, дваю́, дво́іш, дво́іць; дво́ім, дво́іце, дво́яць
**двайня́ты**, двайня́т
**дванаццаціпе́рсны**
**двана́ццаць**, *тв.* -ццаццю
**дваццаціго́ддзе**
**два́ццаць**, *тв.* дваццацццю́
**дваябо́рства**
**дваякавы́пуклы**
**дваякаўвагну́ты**
**дво́е**, дваі́х, дваі́мі
**дво́еўла́ддзе**
**двор**, у двары́, на двары́; *але:* на дварэ́ (не ў памяшканні)
**двуко́ссе**
**двукро́п'е**
**двухакто́вы**
**двухбако́вы**
**двухбо́ртны**
**двухвале́нтны**
**двухвёрсны**
**двухгало́вы**
**двухго́ддзе**
**двухдо́льны**
**двухзна́чны**
**двухкаляро́вы** *і* **двухко́лерны**
**двухкіламетро́вы**
**двухлітро́вы**
**двухметро́вы**
**двухміліметро́вы**
**двухно́гі**
**двухпавярхо́вы**
**двухпу́тны**
**двухсеры́йны**
**двухскладо́вы**
**двухсо́тгадо́вы**
**двухсо́тго́ддзе**
**двухсо́тграмо́вы**
**двухство́лка**, *дав., месн.* -лцы; *р. мн.* -лак
**двухсэ́нсавасць**
**двухфюзеля́жны**
**двухчле́н**, -на, *месн.* -не
**двух'я́русны**
**джаз-арке́стр**, джаз-арке́стра
**джаз-квартэ́т**, джаз-квартэ́та
**джа́ла**, *р. мн.* -лаў
**джгаць**
**джо́ўль**, -ля, *месн.* -лі
**джу́нглі**, -ляў, *адз. няма*
**джут**, джу́ту
**джыгі́т**, -гі́та
**джын**, -на, *(гарэлка)* -ну
**джы́у-джы́цу**, *нескл., н.*
**джэм**, -му
**джэ́мпер**, -ра
**джэнтльме́н**, -на, *месн.* -не
**дзве**, дзвюх, *дав.* дзвюм, *тв.* дзвюма́, *месн.* аб дзвюх

**дзве́рцы**, -рцаў
**дзве́ры**, дзвярэ́й, *тв.* -ра́мі *і* -рмі, *адз. няма*
**дзве́сце**, двухсо́т, *дав.* двумста́м, *тв.* двумаста́мі
**дзевяно́ста**, *нязм.*
**дзевяно̀стаго́ддзе** (90-го́ддзе), -ддзя
**дзевяно̀стапяцігадо́вы** (95-гадо́вы)
**дзевятна́ццаць**, *тв.* -ццаццю
**дзевя́ты**
**дзевяцісо́ты**
**дзе́вяць**, *тв.* -ццю́
**дзевя́цера**, дзевяцяры́х
**дзед-маро́з**, дзе́да-маро́за,*(у казках)* Дзед Маро́з
**дзеепрыме́тнік**, -ка
**дзеепрысло́ўе**
**дзе́канне**
**дзе-ко́лечы**, *абл.*
**дзе-не́будзь**
**дзе-нідзѐ**
**дзень**, дня, *дав.* дню, *месн.* аб дні; па дню; *р. мн.* дзён; Дзень Перамо́гі; Дзень ве́даў
**дзень пры дні**
**дзень у дзе́нь**
**дзернарэ́з**, -за
**дзе́сьці**
**дзеся́так**, -тка
**дзеся́тнік**, -ка
**дзеся́ты**
**дзеся́цера**, дзесяцяры́х
**дзесяціго́ддзе**
**дзесяцікіламетро́вы**
**дзесяціметро́вы**
**дзесяціміліметро́вы**
**дзесяці́на**
**дзе́сяць**, *тв.* -ццю́
**дзесяцяры́чны**
**дзе́ці**, дзяце́й, дзе́цям, дзе́цьмі
**дзець**, дзе́ну, дзе́неш, дзе́не
**дзеязд́ольнасць**, -сці
**дзе́янне**
**дзеясло́ў**, -сло́ва
**дзе́яч**, -ча, *месн.* -чу; *мн.* дзе́ячы, -чаў
**дзёран**, -рну
**дзёрзка**
**дзівасі́л**, -лу
**дзіві́цца**, дзіўлю́ся, дзі́вішся, дзі́віцца
**дзікабра́з**
**дзікаро́слы**
**дзіця́** *і* **дзіцё**, *родн., дав., месн.* дзіця́ці, *тв.* дзі́цем *і* дзіцём
**дзіця́тка**
**дзіця́чы**
**дзі́чка**, *дав., месн.* -чцы; *р. мн.* -чак
**дзын-дзын-дзы́н**
**дзы́ндра**
**дзьмухаве́ц**, -хаўца́
**дзьму́хаць**
**дзьмуць**
**дзю́на**
**дзяво́цкі**
**дзяво́чы**
**дзядзі́нец**, -нца, *месн.* -нцы
**дзя́дзька**, -кі, *тв.* -кам; *мн.* дзядзькі́
**дзядо́ўнік**, -ку
**дзяжа́**; *мн.* дзе́жы, дзе́жаў
**дзяк**, дзяка́
**дзя́каваць** (дзя́кую вам)
**дзя́куй**; шчы́ры дзя́куй
**дзя́куючы** (каму́-чаму́)
**дзяльба́**
**дзяля́га**, *дав., месн.* дзялягу
**дзяля́нка**, *месн.* -нцы; *р. мн.* -нак
**дзяля́цкі**
**дзяржкантро́ль**, -лю
**дзяржкрэды́т**, -ту
**дзяржпла́н**; Дзяржпла́н СССР
**дзяржстра́х**, -ху, *месн.* -ху

**дзяржыдрэ́ва**
**дзярно́ва-падзо́лісты**
**дзясна́**; *мн.* дзёсны, дзёснаў
**дзяўбці́**, -бу́, -бе́ш, -бе́; -бём, дзеўбяце́
**дзяўчы́на**, *р. мн.* -чы́н
**дзя́цел**, дзя́тла
**дно̀ачышча́льны**
**дно̀паглы́бнік**
**днява́ць**, дню́ю
**до́блесны**
**до̀браахво́тны**
**до̀бразычлі́вы**
**до̀брасумле́нны**
**до̀брасусе́дскі**
**до̀браўпара́дкаванасць**
**до̀гляд**, -ду
**дождж**, дажджу́
**до́каз**, -зу
**до́казнасць**, *тв.* -сцю
**до́ктар**, -ра; *мн.* дактары́
**до́лар**, -ра, *месн.* -ры
**до́лата**
**дом**, до́ма, *(месцажыхарства)* до́му
**до̀макіраўні́цтва**
**дом̀аўлада́льнік**, -ка
**до̀маўла́снік**, -ка
**до́менны**
**до́меншчык**, -ка
**до̀нжуа́н**, -на
**до̀нкіхо́т**, -хо́та, *месн.* -хо́це
**до̀нкіхо́цтва**
**до́нна**
**до́піс**, -су, *месн.* -се
**до́пуск**, -ку
**до́света**, *прысл.*
**до́світкам**, *прысл.*
**до́следна-паказа́льны**
**до́сыць-такі**
**до̀ўгабаро́ды**
**до̀ўгавало́сы**
**до̀ўгатрыва́лы**
**до̀ўгатэрміно́вы**
**до̀ўгачака́ны**
**до́шка**, *р. мн.* до́шак
**драбі́ны**, -бі́н, *адз.* -бі́на
**драбнале́ссе**
**драбналі́сты**
**драбнатва́ры**
**дражджава́нне**
**драматы́зм**, -му
**драма́ць**, драмлю́, дрэ́млеш
**дранцве́ць**
**драп-велю́р**, дра́пу-велю́ру
**драсён**, -сну́
**дра́тва**, *дав., месн.* дра́тве
**дра́твенны**
**драўня̀навалакні́сты**
**драўня̀настру́жкавы**
**драўня́на-хмызняко́вы**
**драць**, дзяру́, дзярэ́ш, дзярэ́; дзяро́м, дзераце́, дзяру́ць
**дроб**, -бу; *мн.* -бы
**дро̀бнабуржуа́зны**
**дро̀бназярні́сты**
**дро̀бнакалі́берка**
**дро̀бнамаянтко́вы**
**дро̀бнатава́рны**
**дро̀бнаўла́сніцкі**
**дро́бязнасць**, *тв.* -сцю
**дро́бязь**, *тв.* -ззю
**дро̀ванарыхто́ўкі**
**дро́вы**, дроў, дрыва́м, дрыва́мі, *адз. няма*
**дро́гкі**
**дро́жджы**, дражджэ́й, *адз. няма*
**дро́сель**, -ля, *месн.* -лі
**другаго́днік**, -ка
**другаразо́вы**
**друк**, дру́ку
**друкава́ны**
**дрывавоз**, -за, *месн.* -зе
**дрывако́л**, -ла, *месн.* -ле
**дрывасе́к**, -ка
**дрыгаві́чы**, -чо́ў

**дрыгацённе**
**дрыгвяністы**
**дрыжа́ць**; -жы́м, -жыцё
**дрызіна**
**дрымо́та**
**дрыму́чы**
**дрэваапрацо́вачны**
**дрэваапрацо́ўчы**
**дрэванасаджэ́нне**
**дрэвападо́бны**
**дрэвасто́й**, -то́ю
**дрэдно́ут**, -та
**дрэйф**, дрэ́йфу
**дрэйфава́ць**, дрэйфу́ю
**дрэна́ж**, -жу́, *месн.* -жы́
**дрэнажава́нне**
**дрэ́нна**
**дрэсірава́ны**
**дрэсіро́ўшчык**, -ка
**дуалізм**, -му
**дуб**, ду́ба, *(зборн., матэрыял)* ду́бу
**дубальто́вы**
**дубліраванне**
**дубля́ж**, -жу́, *месн.* -жы́
**дубня́к**, -ку́
**ду́гападо́бны**
**дудзе́нне**
**ду́дка**, *дав., месн.* -дцы; *р. мн.* ду́дак
**дум-ду́м** *(куля), нескл.*
**дур**, ду́ру
**дурнап'ян**, -ну
**ду́рра** *(расліна)*
**дуст**, ду́сту
**дух**, ду́ху, у духу́
**духме́нь**, -ні, *ж.*
**духо́ўнасць**, -ці
**душагрэ́йка**
**душа́ ў душу́**
**дуэ́ль**, *тв.* -ллю, *ж.*
**дуэ́т**, -та
**дыверса́нт**, -та
**дыверсі́йна-тэрарысты́чны**
**дыве́рсія**, *тв.* -сіяй; *р. мн.* -сій
**дывертысме́нт**, -та
**дывідэ́нд**, -нду, *месн.* -ндзе
**дывідэ́ндны**
**дывізіён**, -на
**дывізія**, *тв.* -зіяй
**дыдакты́зм**, -му
**дыдакты́чны**
**дые́з**, -за
**дые́та**
**дыетхарчава́нне**
**дыеты́чны**
**дыза́йн**, -ну
**дыза́йнер**, -ра, аб дыза́йнеру
**ды́зель**, -ля
**ды́зель-мато́р**, ды́зель-мато́ра, *месн.* ды́зель-мато́ры
**ды́зель-по́езд**, ды́зель-по́езда
**ды́зель-электрахо́д**, ды́зель-электрахо́да
**дызентэры́йны**
**дызентэры́я**, *тв.* -ры́яй
**дыктава́ць**, -ту́ю
**ды́ктарскі**
**дыкта́нт**, -та, *месн.* -нце
**дыктату́ра**, *р. мн.* -ту́р
**дыкто́ўка**, дыкто́ўцы
**ды́кцыя**
**дыле́ма**
**дылета́нт**, -та, *месн.* -нце
**дылета́нцкі**
**дыліжа́нс**, -са, *месн.* -се
**дыме́ць**, *3 адз.* дыміць; *3 мн.* дымяць
**дымі́ць**, дымлю́, дыміш, дыміць
**дыназа́ўр**, -ра, *месн.* -ры
**дына́ма**, *нескл., н.*
**дына́ма-машы́на**, дына́ма-машы́ны
**дынамізм**, -му
**дынамі́т**, -ту
**дынамі́чны**

**дынамо́метр**, -ра, *месн.* -ры
**дына́стыя**, *р. мн.* -тый
**ды́нга**, *нязм., м.*
**дыпкур'е́р**, -ра, *месн.* -ру
**дыплама́нт**, -та
**дыпламаты́чны**
**дырыжа́бль**, -бля, *месн.* -блі
**дырыжо́р**, -ра, *месн.* -ру
**дырыжы́раваць**, -рую
**дырэ́ктар**, -ра, *месн.* -ру; *мн.* дырэ́ктары
**дырэкты́ва**, *р. мн.* -ты́ў
**дысана́нс**, -су, *месн.* -се
**дысерта́цыя**, *тв.* -цыяй
**дысіміляты́ўны**
**дысіміля́цыя**
**дыскава́нне**
**ды́скант**, -та
**дыскатэ́ка**, *месн.* -тэ́цы
**дыскваліфікава́ць**, -ку́ю
**дыскрымінава́ць**, -ну́ю
**дыскрэдыта́цыя**, *тв.* -цыяй
**дыскусі́йны**
**дыскуці́раваць**, -рую
**дыслацы́раваць**, -рую
**дыспазі́цыя**, *тв.* -цыяй
**дыспансе́р**, -ра, *месн.* -ры
**дыспе́тчар**, -ра, *месн.* -ру
**дыспрапо́рцыя**, *тв.* -цыяй
**ды́спут**, -ту
**дыспутава́ць**, -ту́ю
**дыста́нцыя**, *тв.* -цыяй; *р. мн.* -цый
**дыстрафі́я**, *тв.* -фі́яй
**дыстыліява́нне**
**дысцыплі́на**, *р. мн.* -лі́н
**дыфасге́н**, -ну
**дыферэнцыя́л**, -ла
**дыферэнцыя́цыя**
**дыфіра́мб**, -мба
**дыфто́нг**, -нга, *месн.* -нгу
**дыфтэры́йны**
**дыфтэры́т**, -ту
**дыфу́зія**, *тв.* -зіяй
**дыхну́ць**; -нём, -няце́
**ды́шаль**, -шля, *месн.* -шлі
**дыягана́ль** (метр дыягана́лю; *але: мат.* дыю́жыня́ дыягана́лі)
**дыя́гназ**, -зу
**дыягра́ма**, *р. мн.* -гра́м
**дыядэ́ма**
**дыякрыты́чны** (знак)
**дыяле́кт**, -ту
**дыялекталогія**
**дыялекты́зм**, -ма
**дыяле́ктыка**
**дыяле́ктыка-матэрыялісты́чны**
**дыялекты́чны**
**дыяло́г**, -ло́га, *месн.* -ло́гу
**дыяме́нт**, -та
**дыя́метр**, -ра, *месн.* -ры
**дыяметра́льна про̀цілеглы**
**дыяпазіты́ў**, -ты́ва
**дыяпазо́н**, -ну
**дыяптры́я**
**дыяра́ма**, *р. мн.* -ра́м
**дыятэрмі́чны**
**дыяфра́гма**
**дэбарка̀дэр**, -ра, *месн.* -ры
**дэбатава́ць**, -ту́ю
**дэба́ты**, -таў
**дэ́бет**, -ту
**дэбі́т**, -ту
**дэбіто́р**, -ра, *месн.* -ру
**дэбо́ш**, -шу
**дэбю́т**, -ту
**дэбютава́ць**, -ту́ю
**дэві́з**, -за
**дэгаза́цыя**, *тв.* -цыяй
**дэгенера́цыя**, *тв.* -цыяй
**дэграда́цыя**, *тв.* -цыяй
**дэгуста́тар**, -ра, *месн.* -ру
**дэдукты́ўны**
**дэзарганізава́ны**
**дэзарганіза́тар**
**дэзарыента́цыя**

**дэзерці́р**, -ра, *месн.* -ру
**дэзінфарма́цыя**, *тв.* -цыяй
**дэзінфе́кцыя**, *тв.* -цыяй
**дэі́зм**, -му
**дэкада́нс**, -су, *месн.* -се
**дэкадэ́нцтва**
**дэкалі́тр**, -ра
**дэкальтава́ны**
**дэкальтэ́**, *нязм.*
**дэкараты́ўна-прыкладны́**
**дэкараты́ўны** (дэкараты́ўныя расліны)
**дэкарацы́йны** *(звязаны з афармленнем сцэны)*
**дэкара́цыя**, *р. мн.* -цый
**дэкары́раваць**, -ры́рую
**дэка́эдр**, -ра, *месн.* -ры
**дэкваліфіка́цыя**, *тв.* -цыяй
**дэклама́цыя**, *тв.* -цыяй
**дэклараваць**, -ру́ю
**дэкласава́ны**
**дэко́рум**, -му
**дэкрэ́т**, -та
**дэлегава́ць**, дэлегу́ю
**дэлега́т**, -та, *месн.* -га́це
**дэ́льта-прамяні**
**дэлю́вій**, -вію, *месн.* -віі
**дэмабіліза́цыя**, *тв.* -цыяй
**дэмаго́гія**, *тв.* -гіяй
**дэмакратыза́цыя**
**дэмакраты́зм**, -му
**дэмакра́тыя**, *тв.* -тыяй
**дэмані́чны**
**дэманстра́цыя**, *тв.* -цыяй
**дэманта́ж**, -жу́, *месн.* -жы́
**дэманціраваць**, -цірую
**дэмаркацы́йны**
**дэма́рш**, -шу, *месн.* -шы
**дэ́мас**, -су
**дэмаскірава́ць**, дэмаскіру́ю
**дэмілітарызава́ны**
**дэмісезо́нны**
**дэміу́рг**, -га, *месн.* -гу
**дэ́мпінг**, -гу, *месн.* -гу
**дэнансава́ць**, -су́ю
**дэнатура́т**, -ту
**дэ́ндзі**, *нязм.*, *м.*
**дэндра́рый**, -рыя, *месн.* -рыі
**дэнці́н**, -ну
**дэпарта́мент**, -та
**дэпе́ша**, *р. мн.* дэпе́ш
**дэпо́**, *нязм.*, *н.*
**дэпрэсі́ўны**
**дэпрэ́сія**, *тв.* -сіяй
**дэпута́т**, -та, аб -це; *але:* па дэпута́ту ад ...
**дэрмаці́н**, -ну
**дэса́нт**, -ту
**дэсе́рт**, -ту
**дэспаты́зм**, -му
**дэталёвы**
**дэтана́цыя**, *тв.* -цыяй
**дэ-фа́кта**
**дэфармава́цца**
**дэфе́кт**, -ту
**дэфі́с**, -са, *месн.* -се
**дэфіцы́т**, -ту
**дэцыгра́м**, -ма
**дэцылі́тр**, -ра, *месн.* -ры
**дэцыме́тр**, -ра, *месн.* -ры
**дэцыметро́вы**
**дэцэнтралізава́ны**
**дээскала́цыя**
**дэ-ю́рэ**, *нязм.*
**д'ябал**, д'ябла, аб д'ябле

## Е

**ева́нгелле**, *месн.* -ллі
**егіпецкі**
**егіпто́лаг**, -га, *месн.* -гу
**егіпця́нін**, -на
**егіпця́нка**, *дав.* -нцы
**е́днасць**
**е́зджаны**
**е́здзіць**, е́зджу, е́здзіш

**езуіт**, -та
**езуітызм**, -му
**ёлка**, *дав., месн.* ёлцы
**ёльнік**, -ку
**ерэтык**, -ка́
**есаўл**, -ла
**есентукі**, -коў, *адз. няма (вада)*
**ёсці**, ем, ясі, есць; ядзім, ясце́, ядуць; *заг.* еш, ешце
**еўрапе́ец**, -пе́йца
**еўрапеіза́цыя**, *тв.* -цыяй
**еўрапе́йскі**
**ехаць**, е́ду, е́дзеш, е́дзе; е́дзем, е́дзеце, е́дуць

## Ё

**ёг**, *родн.* ёга, *месн.* ёгу
**ёга**, -гі *(вучэнне)*
**ёд**, ёду, аб ёдзе
**ёдафо́рм**, -му
**ёдзісты**
**ёдны**
**ёлачны**
**ёлка** *(навагодняя)*
**ёлкасць**, *тв.* -сцю
**ёлкі** (ёлкае ма́сла)
**ёмістасць**, *тв.* -сцю
**ёмісты**
**ёт**, ёта
**ётава́ны**
**ётавы**
**ёта́цыя**, *тв.* -цыяй

## Ж

**ж**, **жа**, *часціцы* (пішуцца асобна ад папярэдняга слова)
**жабо́**, *нязм., н.*
**жа́варанак**, -нка
**жазло́**, -ла́; *мн.* жэ́злы
**жаке́й**, -ке́я, *месн.* -ке́ю
**жаке́й-клу́б**, -ба
**жа́ласліва**
**жалѐзабето́н**, -ну́
**жаль**, жа́лю, *месн.* жа́лі
**жалязня́к**, -ку́, *(лапата)* -ка́
**жамчу́жына**, *р. мн.* -жын
**жанглі́раванне**
**жані́цьба**, *р. мн.* -баў
**жано́цкасць**
**жанр**, -ру
**жанчы́на-ўрач**, жанчы́ны-ўрача́
**жараб'ёўка**, *дав., месн.* -ёўцы; *р. мн.* -вак
**жарабя́** *і* **жарабё**, -бя́ці, *тв.* -бём
**жарало́**, -ла́; *мн.* жэ́рлы, жэ́рлаў
**жарго́н**, -ну
**жардня́к**, -ку́, *зборн.*
**жар-пту́шка**, *дав., месн.* жар-пту́шцы
**жарства́**
**жарсцвя́ны**
**жарт**, -ту
**жартаўлі́ва**
**жаўтава́та-чырво́ны**
**жаўтагру́ды**
**жаўтаро́ты**
**жаўтатва́ры**
**жаўтацве́т**, -ту
**жаўто́к**, -тка́
**жаўту́ха**, *дав., месн.* -ту́се
**жаўцізна́**
**жах**, -ху
**жвір**, жві́ру, аб жві́ры
**жні́вень**, жні́ўня
**жні́веньскі**
**жніво́**
**жняя́**, *тв.* жняёй (-ёю); *р. мн.* жней
**жняя́рка**, *дав., месн.* -рцы; *р. мн.* -рак
**жо̀лабападо́бны**
**жо́луд**; *мн.* жалуды́
**жо́рны**, жо́рнаў *і* жаро́н, *адз. няма*

**жорсткасць**
**жоўкнуць**
**жоўтавалосы**
**жоўта-зялёны**
**жоўцевыдзяленне**
**жоўць**, *тв.* жоўцю
**жрэц**, жраца, аб жрацу
**жудасны**
**жук-плывунец**, жука-плывунца
**журавель**, жураўля, аб жураўлі
**журавіны**, журавін; *адз.* журавіна
**журналісцкі**
**журы**, *нязм., н.*
**жывакост**, -ту
**жывапіс**, -су, *месн.* -се
**жывёлавод**, -да
**жывёлагадоўля**
**жывёлалячэбніца**
**жывёлапрамысловы**
**жывіць**, жыўлю, жывіш
**жыжка**
**жыллёва-будаўнічы**
**жыллёва-бытавы**
**жыллёва-камунальны**
**жым**, -му
**жытні**, -няя, -няе
**жытнішча**
**жыў-быў**, жыла-была, жыло-было
**жыццесцвярджальны**
**жыццё-быццё**, жыцця-быцця
**жыццёвасць**, -сці
**жыццядзейнасць**
**жыццяпіс**, -су
**жыццярадасна**
**жыць**; жывём, жывяце
**жыць-пажываць**
**жэлацін**, -ну
**жэле**, *нязм., н.*
**жэмчуг**, -гу, *месн.* -гу
**жэньшэнь**, -ня, *(лякарства і зборн.)* -ню
**жэрабя** (кінуць жэрабя)
**жэрдзе**, *зборн.*
**жэстыкуляваць**, -люю
**жэтон**, -на, *месн.* -не; *але:* па аднаму жэтону

## З

**заадно**, *прысл.; але:* за адно, *ліч. з прыназ.*
**заазёрны**
**заакіянскі**
**заалогія**
**заамінімум**, -муму
**заапарк**, -ка
**заараць**; зааром, заараце
**заасад**, -да
**заатэхнік**, -ка
**заахвочвальны**
**забалаціраваць**, -рую
**забалочванне**
**забальзаміраваць**
**забаранаваны**
**забарыкадаваны**
**забельваць**
**забеспячэнне**
**за бесцань**
**забінтаваны**
**заблакіраваць**, -рую *і* -рую
**забой**, -бою, *месн.* -бої
**забойца**, -цы, *дав., месн.* -цу, *тв.* -цам; *(у ж. р.) дав., месн.* -цы, *тв.* -цай (-цаю)
**забразгаць**
**забракаваны**
**забраніраваны** *(замацаваны)*
**забраніраваны** *(пакрыты бранёю)*
**забрытаць** (каня)
**забяспечыць**, *незак.* забяспечваць
**завадзь**, *тв.* -ддзю
**заваёўнік**, -ка

**завалакáць** *і* **завалáкваць**
**завалачы́**, -лакý, -лачэ́ш, -лачэ́; -лачóм, -лачацé
**зáварацень**, -ратня, *месн.* -ратні
**заварóт**, -ту
**заварýха**, *дав., месн.* -рýсе
**заваявáны**
**завéдама**
**завéзці**, -вязý; -вязём, -везяцé
**завербавáны**
**завéршваць** *(стог і пад.)*; *зак.* завяршы́ць
**завéсці**, -вядý; -вядзём, -ведзяцé
**завéшваць**, *зак.* завéсіць
**завéшчаны**
**завёрстваць**, *зак.* завярстáць
**зáвідна**
**завідýшчы**
**завінавáчанасць**
**завірýха**, *дав., месн.* -рýсе
**завітóк**, -ткá
**завіхáнне**
**завішчáць**
**завóблачны**
**завóд**, -да, *(у механізме)* -ду
**завóд-аўтамáт**, завóда-аўтамáта
**завòдакіраўніцтва**
**завóдскі**
**завóдчык**, -ка
**завóз**, -зу
**завóйкаць**
**завóлжскі**
**завóрваць**
**завóстраны**
**завóхкаць**
**завóчна**
**завóчнік**, -ка
**за вóчы**
**завóшта**
**завуаліраваны**
**завугóлле**, *месн.* -ллі
**завýжваць**, *зак.* завýзіць
**завýлак**, -лка
**завýсеніца**
**завýчваць**
**завушніцы**, -ніц
**завы́сіць**, завы́шу
**зáвязка**, *дав., месн.* -зцы
**завя́зка**, *літ.*
**зáвязь**, *тв.* -ззю
**завялікі**
**завя́льваць**
**завярбóўваць**, *зак.* завербавáць
**завярстáны**
**завяршáць** *(справу)*
**завяшчáльнік**, -ка
**завяшчáнне**
**завяшчáць**
**загавóр**, -ру, *месн.* -ры
**загáд**, -ду, *(дакумент)* -да
**загáдваць**, -ваю
**зáгадзя**
**загáдка**, *месн.* -дцы
**загáдчык** *(чаго)*, -ка
**загаíць**, -гаю́, -гóіш
**загалóвак**, -лóўка
**загалóўны**
**загáннасць**
**заганя́ны**
**загáр**, -ру, *месн.* -ры
**загараджáльны** (агóнь)
**зáгарадзь**, *тв.* -ддзю
**зáгарадка**, *дав., месн.* -дцы; *р. мн.* -дак
**зáгарадны**
**загáрваць** *і* **загарáць**
**загарóджваць**
**загартавáнасць**
**загартавáны**
**загартóўванне**
**загарэ́ць**; -ры́м, -рыцé
**загасíць**, загашý, загáсіш; загáсяць
**загасціцца**, загашчýся, загóсцішся; *2 мн.* загóсціцеся

загаціць, загачу́, зага́ціш; *незак.* зага́чваць
за́гваздка, *дав., месн.* -дцы
загі́бшчык, -ка
загіна́сты
загіпнатызава́ны
загіпсава́ць, -су́ю
загла́джаны
загла́джваць
загле́дзецца *і* заглядзе́цца
заглу́хлы
заглу́хнуць
заглуша́ць *і* заглу́шваць
заглы́тваць, *зак.* заглыта́ць
заглyда́нне *і* загля́дванне
загляда́ць *і* загля́дваць
заглядзе́нне
загляну́ць, -ну́, -не́ш, -не́
загнёт, -ту
загні́сці
загойвацца
заго́н, -ну, *(палоска зямлі)* -на
заго́ншчык, -ка
заго́р'е, *месн.*, -р'і
заго́ртваць
заграба́нне
заграбу́шчы
загразáць, *зак.* загра́знуць
заграні́ца
за грані́цай
за грані́цу
загрува́сціць, -ва́шчу, -ва́сціш; *незак.* загрува́шчваць
за́грудкі
загружа́ць, -жа́ю
загруза́ць
загрузі́ць, -гружу́, -гру́зіш
загру́зка, *месн.* -зцы
загру́знуць
загру́зчык, -ка
загрунтава́ны
загры́вак, -ры́ўка
загрыза́ць

загры́зены
загры́зці
загрыміравáны
загрэ́бці; заграбём, заграбяце́
загубі́ць, загублю́; загу́бяць
загу́льваць
загуме́нне
загусці́, загуду́; загудзём, загудзяце́, загуду́ць; загу́ў, загула́
загу́шчаны
загы́ркаць
задавальне́нне
задавальня́ць, *зак.* задаво́ліць
задава́цца; -яце́ся
задаво́лены
зада́дзены (уро́к)
задажджы́цца
зада́рам *і* задарма́
зада́так, -тку
зада́ткі, -ткаў
зада́ць, зада́м, задасі́, зада́сць; зададзі́м, задасце́
задво́ркі, -ркаў, *адз. няма*
задзеравяне́лы
задзёўбваць
задзіма́ць, *зак.* задзьму́ць
задзі́рысты
задзьму́хаць, *незак.* задзьму́хваць
задзяўба́ны
задзяўба́ць *і* задзяўбці́
за̀днепаднябе́нны
за̀днеязы́чны
задо́брываць
задо́брыць; *3 мн.* задо́браць
задо́к, -дка́
задо́рага
задо́раны
задо́ўга
задрапірава́ны
заду́мваць
задуме́ннасць
задыме́ць, задыме́ла

**задыміць**, -млю, -міш, -міць; -мім, -міце
**задыяк**, -ка
**задыякальны**
**заедзь**, *тв.* -ддзю
**заезд**, -ду
**заезджаны**
**заезджы**
**заездзіць**, -джу, -дзіш
**заезны** (двор)
**заесці**, заем, заясі; заядуць
**зажынкі**, -нак, *адз. няма*
**зазваць**; зазавём, зазавяцё
**зазвычай**, *прысл.; але:* за звычай, *наз. з прыназ.*
**заземлены**
**зазззяць**
**зазімак**, -мку
**зазнайка**, -кі, *дав., месн.* -ку, *тв.* -кам; *(у ж. р.) дав., месн.* -цы, *тв.* -кай (-каю); *р. мн.* -наек
**зазнаны**
**зазор**, -ру
**зазубень**, -бня, *месн.* -бні
**зазявацца**
**зазямліць**, зазямлю, заземліш; *3 мн.* заземляць
**заігрыванне**
**заігрываць**
**заіка**, -кі, *дав., месн.* -ку, *тв.* -кам; *(у ж. р.) дав., месн.* -цы, *тв.* -кай (-каю); *р. мн.* заік
**заіканне**, *месн.* -нні
**заікацца**
**заіклівы**
**заікнуцца**
**заінелы**
**заінець**, заінею
**заінтрыгаваны**
**заінтрыгаваць**, *незак.* **заінтрыгоўваць**
**заіскрыцца**
**зайграць**
**зайздрасць**, *тв.* -сцю
**зайздросны**
**зайздросціць**, -рошчу, -росціш; *заг.* зайздросьце
**займальнасць**, *тв.* -сцю
**займацца**
**займеннік**, -ка
**займенны**
**зайсці**, зайду, зойдзеш; зойдуць
**зайчаня** *і* **зайчанё**, -няці
**закабалены**
**закабаліць**
**закабаленне** *(стан)*
**закабальванне** *(дзеянне)*
**закаваны**
**закавулак**, -лка
**закавырысты**
**заказ**, -зу, *месн.* -зе
**заказаць**, закажу, закажаш; *незак.* **заказваць**
**заказчык**, -ка
**закайвацца**
**закаласаваць**
**закалупіць**, -луплю, -лупіш; *3 мн.* -лупяць
**закалыхаць**, -лышу, -лышаш
**закампаставаць**, -тую *(с.-г.)*
**закампасціраваць** (білет), -ціруе
**заканадаўства**
**заканадаўчы**
**заканазнаўства**
**заканазнаўчы**
**заканамернасць**
**заканамерны**
**закансерваваны**
**закансерваваць**
**законспектаваць**, -тую, -туеш
**заканчэнне**
**закапаны**
**закапваць** (*ад* капаць)
**закапрызіць**, -рыжу, -рызіш, -рызіць

**закаркаваны**
**закаркаваць**, *незак.* **закаркоўваць**
**закарчанелы**
**закасаваны**
**закасаваць**, -сую, -суеш
**закасаць**, -саю, -саеш, -сае; *незак.* **закасваць**
**закаснеласць**
**закаснелы**
**закасцянеласць**
**закаціць**, *незак.* **закочваць**
**закачаць**, *незак.* **закачваць**
**закашляцца**
**закаяцца**
**заквахтаць**, *3 адз.* заквохча
**заквашваць**
**закід**, -ду
**закіданы**
**закідванне**
**закідваць**, *зак.* **закідаць**
**закілзаць**, *незак.* **закілзваць**
**закіпанне** *і* **закіпванне**
**закіпець**, *незак.* **закіпаць** *і* **закіпваць**
**закіпяціць**, -пячу, -пяціш; *3 мн.* -пяцяць
**закіс**, -су
**закітаваны**
**заклад**, -ду
**закладваць** *і* **закладаць**
**закладзены**
**заклапочваць**
**заклееены**
**заклейваць**, *зак.* **заклеіць**
**заклеймаваны**
**заклёпваць**, *зак.* **закляпаць**
**заклёпшчык**, -ка
**заклік**, -ку
**заклікаць**, -лічу
**заклінoўваць**
**закляпаны**
**заколаты**
**закон**, -ну, *(дэкрэт)* -на
**законапалажэнне**
**законапарушальнік**, -ка
**законапраект**, -та
**законнасць**
**закончыць**, -чу, -чыш
**закопваць**
**закоўзаны**
**закочваць**, *зак.* **закаціць**
**закрануты**
**закрой**, -рою, *месн.* -роі
**закройваць**
**закругліць**, *незак.* **закругляць**
**закрылак**, -лка
**закрыццё**, *месн.* -цці
**закрыць** (закрыць сход)
**закрэпка**, *дав., месн.* -пцы, *р. мн.* -пак
**закрэсліванне**
**закупліванне**
**закупляць** *і* **закупліваць**
**закусачная-аўтамат**, **закусачнай-аўтамата**
**закусваць**
**закутак**, -тка
**зала**, *р. мн.* залаў
**залазаванне**
**заламаны** *і* **заломаны**
**заламацца**, заломіцца
**заламаць**, заламлю, заломіш; *незак.* **заломліваць**; заламаў; *заг.* заламі
**залатаверхі**
**залатагузка**
**залатакудры**
**залатаносны**
**залатарунны**
**залататкaны**
**залатнік**, -ка
**залатуха**, *дав., месн.* -тусе
**залаціста-аранжавы**
**залаціста-жоўты**
**залежаць**, -жу, -жыш

**за́лежы**, -жаў
**зале́пліваць**
**зале́тась**
**зале́ташні**
**зале́чванне**
**залёт**, -лёту
**залі́за́ць**, -ліжу́, -лі́жаш
**залі́к**, -ку
**залітава́ць**, -ту́ю
**залі́ў**, -лі́ва
**заліхва́цкі**
**залі́чваць** *і* **залі́ча́ць**
**залі́шне**
**зало́м**, -му
**зало́мліваць**
**залп**, за́лпа
**заляга́нне**
**залямантава́ць**, -ту́ю
**за́мак**, за́мка
**за́малада**
**замалёўваць**
**замалява́ны**
**за́маразкі**, -каў
**замардава́ны**
**замаро́жванне**
**замару́джваць**
**замарынава́ны**
**замаўка́ць**, *зак.* **замо́ўкнуць**
**зама́х**, -ху, *месн.* -ху
**замацава́ны**
**замглёны**
**замглі́ць**
**заме́р**, -ру, *месн.* -ры
**заме́рзнуць**, замёрз, заме́рзла
**заме́рці**, замру́; замёр, заме́рла
**заме́с**, -су, *месн.* -се
**заме́ст**
**заме́сці**; замяцём, замецяце́
**за́мець**, *тв.* -ццю
**замёрзлы**
**замжэ́ць**
**замно́га**
**замо́рак**, -рка
**замо́ўчванне**
**замо́шчванне**
**за́муж**
**за́мужам**
**заму́жжа**, *месн.* -жжы
**заму́ляць**
**замурава́ны**
**замча́ць**
**за́мчышча**, *месн.* -шчы
**за́мша**, *месн.* -шы
**замшэ́лы**
**замшэ́ць**
**замы́льваць**
**за мяжо́й**
**за мяжу́**
**замяні́цель**, -ля, *тв.* -лем
**замярза́нне**
**замя́ўкаць**
**замяша́нне**
**замяшча́льны**
**замяшчэ́нне**
**за́нава**
**зана́дта**
**занасі́ць**, *незак.* **зано́шваць**
**занато́ўваць**
**зандзі́раванне**
**занепада́ць**
**занепако́ены**
**зано́с**, -су
**занумарава́ны**
**занявóленне**
**занядба́ны**
**заняду́жаць**, -жаю
**заняпа́д**, -ду
**заняпа́сці**
**заня́так**, -тку; **заня́ткі**, -ткаў
**заня́тасць**
**зао́лаг**, -га, *месн.* -гу
**за́паведзь**, *тв.* -ддзю
**запаве́т**, -ту
**запаво́лены**
**западо́зраны**
**западо́зрываць**

